

## I. Дарога

Усякае падарожжа пачынаецца з дарогі. Наша — не выключэнне. І пачнём яго са стольнага Мінска, дакладней — з яго заходняй часткі, адкуль вырываецца на вольны прастор прамая, як след рэактыўнага самалёта, бетонная аўтастрада — Ракаўская шаша.

Куды ён вядзе, гэты сучасны гасцінец, і чым ён такі славуты, каб на ім спыняць нашу ўвагу? Ну, вядома, у край, дзе бруіцца Іслач, да месца нашай працы і адпачынку — Дома творчасці пісьменнікаў «Іслач», размешчанага за 40 км ад цэнтра беларускай сталіцы. А яшчэ — праз Ракаў, Валожын, Ліду, Масты — у Гродна, адзін з самых старажытных і адметных беларускіх гарадоў, буйны абласны цэнтр на захадзе БССР. Дарэчы, яна, дарога,— самы кароткі шлях з Мінска (а таксама і з Масквы) да заходняй граніцы СССР (для параўнання: з Мінска да Брэста 346 км, з Мінска да Гродна 282 км).

Ракаўскую шашу з поўным правам можна назваць дарогаю дружбы. Менавіта з яе пачынаецца шлях



у Прыбалтыку. Дарожны паказальнік на ўскраіне Мінска сведчыць: да Вільнюса 172 км, да Рыгі 467 км, да Таліна 775 км. Перад Валожынам шаша падзяляецца на дзве ручаіны: проста — на Гродна, направа — у Прыбалтыку. Выбірай, калі ласка, падарожнік, што табе патрэбна...

Апошнім часам мы слушна звярнулі ўвагу на мемарыялізацыю дарог. Першай з беларускіх транспартных артэрый удастоілася мемарыяльнага знака дарога Мінск — Маладзечна — Вільнюс: побач з шашой каля вёскі Мясата ўзняліся тры валуны, на якіх высечаны прозвішчы славутых людзей, што ў розны час хадзілі ці ездзілі па ёй. Думаецца, дачакаецца свайго мемарыяльнага знака і Ракаўская шаша — старажытнейшы шлях, што моцна лучыў і лучыць Усход і Захад. Калісьці бойкі гасцінец, утрамбаваная гравійка, дагледжаная сялянамі падчас шарварак, потым — брукаванка, звілістая асфальтавая паласа, нарэшце — сучасная аўтастрада. Яна за некалькі стагоддзяў непазнавальна змяніла сваё аблічча, але не страціла асноўнай функцыі: быць сувязной як для суайчыннікаў, так і для народаў-суседзяў. Гэта па ёй неаднойчы ішоў пешкі і ехаў на сялянскім возе ў свой фальварак Люцінка заснавальнік новай беларускай літаратуры, першы яе класік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Гэта яна ў свой час прывяла ў ваколіцы Ракава рускага пісьменніка-дзекабрыста Аляксандра Бястужава-Марлінскага. Гэта яна з калісьці глухога хутара Дзяржынава вывела ў шырокі свет жалезнага рыцара Кастрычніцкай рэвалюцыі Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага. Гэта яе прысадамі любавалася славутая польская пісьменніца Эліза Ажэшка, калі ехала з Гродна ў Ракаў да вядомага ў свой час літаратуразнаў-

ца і публіцыста Мар'яна Здзяхоўскага. Сымон Будны, Станіслаў Манюшка, Канстанцыя Буйло, Якуб Колас, Ілья Эрэнбург, Пётр Міронавіч Машэраў, дзесяткі іншых вядомых культурных і грамадскіх дзеячаў розных народаў праходзілі і праязджалі гэтым гістарычным шляхам, што бачыў на сваім вяку многае. У тым ліку — і не вельмі радаснае...

Не толькі здружвала дарога. На жаль, яна, найкарацейшы шлях з Заходняй Еўропы ва Усходнюю, была ўдзельніцаю самых кровапралітных войнаў XIX-XX стст. Па ёй частка войск Напалеона рухалася на Маскву, а потым з ганьбаю адкочвалася назад, у Францыю. У час першай сусветнай вайны Ракаўская шаша стала арэнай жорсткіх баёў паміж нямецкімі і рускімі войскамі. У першыя гады пасля Кастрычніка яна з'явілася сведкай савецка-польскага ўзброенага канфлікту, які завяршыўся Рыжскім мірным дагаворам 1921 г., а для яе, дарогі,— дзяржаўнай савецка-польскай граніцай, што перасекла яе перад самым Ракавам. Савецкія войскі, якія ў векапомным верасні 1939 г. вызвалялі Заходнюю Беларусь, рухаліся таксама і па ёй. Самае страшэннае выпала ёй у час Вялікай Айчыннай вайны: і тады, калі фашысцкія арміі рваліся на ўсход, на Мінск, на Маскву, і тады, калі пад час вызваленчай аперацыі «Баграціён» у так званым мінскім «катле» апынуліся сотні тысяч нямецкіх салдат, якія ашалела — зноў жа па ёй — вырываліся на захад. Яшчэ і дасюль стаіць у вачах тая пасляваенная шаша: уся ў выбоінах, у варонках ад бомб і снарадаў, запруджаная разбітымі танкамі і машынамі, з параненымі прысадамі, з ашчэранымі пашчамі ўцалелых дзотаў...

Давайце глянем на дарогу вачыма цікаў-





нага падарожніка-экскурсанта, які, пачаўшы свой шлях з Мінска, пазірае на яе праз акно аўтобуса ці легкавушкі.

Неўзабаве за гарадскім пастом Дзяржаўнай аўтаінспекцыі, дзе ад аўтастрады адыходзіць паваротка на вёску Тарасава, справа на ўзгорку мы ўбачым высокую стэлу, да якой вядзе бетонная лесвіца. Як сведчыць надпіс на ёй, стэла ўстаноўлена «У памяць пра баявыя дзеянні падпольна-патрыятычнай групы вёсак Тарасава і Ратамка супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў з ліпеня 1941 г. па красавік 1942 г.». На мармуровай дошцы пералічаны прозвішчы пяці кіраўнікоў падпольнай арганізацыі і пятнаццаці радавых яе ўдзельнікаў (прозвішчы чатырох не ўстаноўлены), якія геройчна загінулі ў барацьбе з акупантамі. Пра гераізм савецкіх людзей у час Вялікай Айчыннай вайны сведчыць яшчэ адзін прыдарожны помнік. Невялікі абеліск, устаноўлены справа ад шашы на 22-ім км. Надпіс на ім: «Тут у чэрвені 1941 года пры абароне сталіцы Беларусі г. Мінска стаялі насмерць воіны 159 стралковага палка 64 стралковай дывізіі». Узгорыстая мясцовасць, густая дуброва паабапал шашы дазволілі нашым войскам стварыць тут даволі моцную лінію абароны. Пра ваенныя падзеі да гэтага часу нагадвае і ўцалелы дзот злева ад шашы перад самай вёскай Падсады (27 км).

Аднак давайце перанясемся ў наш сённяшні дзень. За акном машыны праплываюць лясістыя ўзгоркі, калгасныя палі, фермы, вёскі з традыцыйнымі драўлянымі пабудовамі і сучаснымі мураванкамі: Дуброва, Хацежына, Новая Вёска, Байдакі, Наваселле... Пейзаж, тыповы для Цэнтральнай Беларусі... Лясы — ліcцевыя, мяшаныя, потым пераважна





*Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач».*

хваёвыя — усё штораз гусцеюць, становяцца амаль суцэльнымі, каб затым, недзе за Ракавам, перайсці на небасхіле ў Налібоцкую пушчу. Аўтастрада, што прыўзнімаецца на пагоркі і спадае ў даліны, ледзь прыкметна паднімаецца ўсё вышэй і вышэй. Нарэшце на 26-м км вёска Гарані (тут, дарэчы, нарадзіўся беларускі крытык Сымон Куніцкі, 1902-1940) — самае высокае месца Ракаўскай шашы. І не толькі шашы. Мы знаходзімся на адным з найвышэйшых пунктаў Мінскага ўзвышша — самай высокай часткі Беларускай грады. У сонечны дзень удалечыні злева можна ўбачыць лясісты пагорак — гару Дзяржынскую. Яна ўзвышаецца на 345 м над узроўнем мора. Разам з гарамі Лысай (342 м) і Маяком (335 м), што знаходзяцца таксама непадалёку адсюль, толькі справа ад шашы, яны складаюць

«трыумвірат» найвышэйшых вяршынь Беларусі. Канечне, горы гэтыя адносныя, пакатыя або стромыя ўзгоркі. Аднак не забудзем, што Мінскае ўзвышша, якое перасякае Ракаўская шаша, з'яўляецца галоўным водападзелам паміж басейнамі Чорнага і Балтыйскага мораў, водападзелам еўрапейскага значэння. Скажам, усяго некалькі кіламетраў аддзяляюць вытокі рэк, што бяруць пачатак паабапал гары Дзяржынскай, але цякуць яны ў розных напрамках: Пціч (праз Прыпяць і Дняпро) у Чорнае мора, Іслач (праз Нёман) — у Балтыйскае. Тое ж і з рэкамі, што пачынаюцца справа ад шашы, каля гары Маяк: Свіслач (праз Бярэзіну і Дняпро) цячэ ў Чорнае мора, Уша (праз Вілію і Нёман) — у Балтыйскае. Калісьці ў гэтых мясцінах былі бойкія волакі, пралягаў адзін са шляхоў з «варагаў у грэкі». Цікава, што асобныя рэкі, якія пачынаюцца ў гэтых мясцінах, але цякуць у розных напрамках (у бок Балтыйскага або Чорнага мораў), маюць аднолькавыя ці вельмі падобныя назвы: Іслач і — Свіслач, Бярэзіна (заходняя; у народзе яшчэ кажуць Бяроза) і — Бярэзіна (усходняя, або Беразіна)... Старажытнаму чалавеку, які даў гэтыя найменні, мабыць, і пасля нядоўгага сухапутнага волаку здавалася, што ён працягвае плыць адной і той жа ракою...

Ад Гарань дарога крута пабегла ўніз. На даляглядзе — маляўнічая даліна Іслачы. Рэчка, якая выбіваецца каля вёскі Скірмантава невялічкай крынічкай і затым убірае даніну шматлікіх лясных ручаёў і рачулак, паступова глыбее і шырэе і ўжо каля Дома творчасці пісьменнікаў радуе вока сваёй жвавай крыштальнай хваляй. Паводле сведчанняў некаторых тапаністаў, назва Іслачы (як, зрэшты, Віслы і Свіслачы) паходзіць ад слова «віслач»,



што сустракаецца ў некаторых беларускіх дыялектах і абазначае «плывун, насычаны вадой пясок, твань». Праўда, адзін пісьменнік, які адпачываў у «Іслачы», прапанаваў і іншае тлумачэнне назвы ракі: у мове нашых прародзічаў антаў Іслач — гэта «сонная лясная рачулка». Што ж, зусім магчыма, што гэтым ацалелым словам старажытныя славяне-анты падалі нам праз вякі свой голас...

Даліна Іслачы славіцца сваімі сасновымі лясамі, якія растуць на сухіх пясчаных глебах. Рачулкі тут крынічныя, халодныя, балот няма. Гэта стварае свой мікраклімат, своеадметны свет прыроды. Паўзуноў (гадзюк, вужоў і інш.) тут не сустрэнеш, не дакучаюць улетку і камары, розная машкара. Паветра чыстае, багатае кіслародам, лекавымі фітанцыдамі. Таму ў Ракаўскай курортнай зоне знайшлі прапіску санаторыі, прафілакторыі...

Аўтастрада далей увесь час бяжыць далінаю Іслачы, хоць саму рэчку не відаць: яна бруіцца злева ад шашы, хаваецца за магутнымі соснамі. Калісьці, да 17 верасня 1939 г., тут была савецкая прыгранічная тэрыторыя. А вось і былая граніца — на 33-м км ад Мінска. Яна васемнаццаць гадоў перасякала шашу і праходзіла па невялічкай рачулцы Манюнька. Цяпер тут граніца Мінскага і Валожынскага раёнаў, пра што сведчыць прыдарожны паказальнік: «Валожынскі раён».

Дарога зварочвае ўправа, абыходзячы старадаўні Ракаў. Праплываюць удалечыні хаты, царкоўная і касцельная вежы, саўгасныя фермы, мачты электраліній... Аразу за Ракавам — дарожная развілка. Зварочваем улева, і праз колькі хвілін — уязная брама з жаданым надпісам: «Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач».



## 2. Замак на Іслачы

Расказ пра «Іслач» хочацца пачаць з верша Ніла Гілевіча, які ён прачытаў пры адкрыцці Дома творчасці 27 лістапада 1986 г.:

Хмары дыхаюць зазімкам, віснучы,
А ў душы — святліста-светлы май:
— Добры дзень, Дом творчасці на
Іслачы! Жыхароў-гасцей к сабе прымай!

Як палац, ты ўзняўся тут, на ўзбочыне Ад
шашы, якой хадзіў Вінцэнт.
Ласка сэрца й моц рукі рабочае —
У цаглінцы кожнай гэтых сцен.
Хай жа ціша добрая тут цішыцца —
Для натхнення радасных дароў.
Хай тут кожнаму так слаўна пішацца,
Як, быць можа, ні ў адным з дамоў!

Хай шчыруюць тут, удумна мыслячы,
Творцы ўсіх народаў і зямель.
Дык у добры й доўгі шлях па Іслачы,
Бласлаўлёны музай карабель!

Паэту Н. Гілевічу будынак Дома творчасці падаўся ў выглядзе карабля, які плыве па



Іслачы. Што ж, можна ўявіць і такое. Аднак рамантычнае ўяўленне малюе і нешта іншае...

Светлы замак Ракаўскі — так часамі называюць свой Дом творчасці беларускія пісьменнікі, чым выклікаюць у памяці назву шырокавядомага гістарычнага рамана Уладзіміра Караткевіча «Чорны замак Альшанскі». Сапраўды, будынак нагадвае палац замкавага тыпу: двухпавярховы чатырохкутнік з дзяцінцам (унутраным дворыкам), аглядальнай вежай, уваходнай брамай. Як і належыць, у «замку» ўсё зроблена па самаму высокаму рахунку, з улікам каштоўных архітэктурных і інжынерных дасягненняў. Жылыя памяшканні з усімі выгодамі — на розны густ: адна- і двухпакаёвыя, большыя і меншыя, на адным і на двух узроўнях (з арыгінальнымі пакоямі-мансардамі). Тры камінныя залы: «Белавежская пушча», «Пралеска», «Васілёк» (назву атрымалі ад кафлі, якой абкладзены каміны). Прасторныя холы з каляровымі тэлевізарамі. Утульная бібліятэка з цікавым падборам літаратуры. Кіназала. Більярдная. Кафейны бар. Медыцынскі пункт. І, зразумела, сталовая, у якой кормяць вельмі смачна і разнастайна, у тым ліку і беларускімі нацыянальнымі стравамі, дарамі мясцовых палёў, лясоў і агародаў. У каго вялікая сям'я ці хто любіць адзіноту — да паслуг тры асобныя двухпавярховыя катэджы з невялікімі каміннымі заламі і верандамі. Поўная самастойнасць. Ілюзія асабістага домаўладання.

Не толькі тварыць, але і адпачываць прыязджаюць сюды пісьменнікі. І актыўна адпачываюць, калі дружаць з фізкультурай і спортам. У гэтым ім дапамагае свая спартыўна-аздараўленчая зона, у якую ўваходзяць спартыўныя пляцоўкі (валейбольная, тэнісны корт, гарадкі), прагулачныя дарожкі з віда-

вымі пляцоўкамі. Аматары далёкіх прагулак любяць выходзіць за тэрыторыю Дома творчасці і ўтаптанай сцяжынай па-над Ісласчу падавацца на захад, у бок Міхалова, да месца, дзе ў Ісдач упадае не менш прыгожая рэчка Яршоўка. Назад, адчуўшы прыемную стому, звычайна вяртаюцца асфальтаванай дарогай.

Зімою ў Доме творчасці можна ўзяць напракат лыжы, балазе лыжня тут адменная: роўныя ўчасткі чаргуюцца з пакатымі спускамі і пад'ёмамі, прамы шлях — з крутымі паваротамі. Аматараў лазні асабліва прываблівае домік, што стаіць наводшыбе. Тут два парыльныя аддзяленні (сауна і парыльня з мокрай парай), душавая, басейн, чайная і пакой адпачынку (ён абстаўлены арыгінальнай драўлянай мэбляй у народным стылі).

Добраму настрою, натхненню спрыяе і навакольная прырода. А яна тут адменная, такіх прыгожых мясцін на Беларусі не так ужо і шмат. Дом творчасці стаіць у ягадным і грыбным сасновым лесе на беразе крынічнай Іслачы. Можна зведаць сваё рыбацкае шчасце: на вудачку шчаслівцаў часам трапляе нават стронга. З высокага сыпкага берага адкрываецца маляўнічая даліна ракі, заліўныя лугі, высокія ўзбор'і, парослыя чаромхай і ляшчыннікам. Красе мясцін адпавядаюць і тутэйшыя мікратапанімічныя назвы: Медзьвядка, Салаўёў кут, Рынкавае балота... Прыгожа тут у любую пару года: і вясною, калі ўспыхваюць белым агнём шматлікія чаромхавыя кастры, і летам, калі радуе вока шматколерны, сатканы з кветак дыван сенажацяў і лашчыць слых зладжаны птушыны шчокат, і восенню, прапахлай туманам і густым грыбным духам, і марознай зімою, з яе двума галоўнымі





колерамі: снегавой белізною і вечнай хвойнай зелянінай...

Не дзіва, што не толькі лёгка дыхаць тут, але і лёгка тварыць. Вось як пра гэта ў сваёй «Одзе Дому творчасці «Іслач» напісаў Станіслаў Шушкевіч:

Прыйдзі сюды, на бераг выскачы,
Дзе працякае рэчка Іслач,
Ад прыгажосці, захаплення
Кране агнём цябе натхненне...
Тут тым паход паэт завершыць, —
Сардэчныя напіша вершы,
Празаік кожны тут, вядома,
Раманы створыць лепш, чым дома,
І драматург тут тэмп паскорыць,
Цудоўныя напіша творы.

Да ўмоў працы і адпачынку, да маляўнічага наваколля не застаецца раўнадушным ніхто, хто хоць раз пабывае ў «Іслачы». Вось толькі асобныя запісы з «Кнігі водгукаў і прапаноў», што вядзецца ў Доме творчасці з дня яго адкрыцця.

«Будзь благаслаўлёна, квітней і развівайся, пісьменніцкае гняздо! Няхай у гэтым лесе, пад пошум соснаў, пад зімовым і летнім небам творыцца новае прыгожае пісьменства».

*І. Навуменка. БССР.*

«Цудоўныя людзі, добрыя, сапраўдныя сябры сустрэліся мне ў гэтым кутку Беларусі. Хочацца пажадаць Дому поспехаў і дабра. Няхай лунаюць у ім бессмяротныя цені класікаў беларускай літаратуры, няхай завязваюцца вузы братэрства, няхай жыхарам гэтага Дома тут думаецца і пішацца пра самае дарагое».

Р. *Лубкіўскі. Львоў.*





*У бібліятэцы.*

«Жывеш у «Іслачы» з душэўным улагоджваннем: Беларусь, поўная жывога зачаравання, зямля з яе ягаднымі, грыбнымі лясамі і страявымі гвардзейскімі пушчамі, пранізліва-яркімі промнямі, крынічнымі рачулкамі, пясчанымі ўзгоркамі і яе народ з характарам ласкавым, добрым, цёплым. Працуй уволю!»

Ул. *Міхайлаў. Масква.*

«Армянскія пісьменнікі і члены іх сем'яў дзякуюць за цёплы прыём і выдатныя ўмовы. Тут усё добра: і ўмовы, і людзі, і прырода... Дзякуй, «Іслач», мы цябе не забудзем!»

*Т. Карапецян, В. Парцізуні, Г. Джанікян. Арменія.*

«Мы, перакладчыкі беларускай літаратуры, адчувалі тут як дома. Прыгожы лес, маляўнічае

наваколле напаўнялі нас аптымізмам і ахвотай да творчай працы».

*М. Яцкевіч. Польшча; В. Жыдліцкі. Чэхаславакія; М. Джэркавіч. Югаславія; П. Кынева. Балгарыя.*

«Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач» — самы лепшы Дом творчасці ў Савецкім Саюзе. Тут ёсць усе ўмовы для спакойнага жыцця і творчасці».

*Г. Эльсевар. Азербайджан,*

«Бясконца ўдзячны за цудоўны месяц спакойнага, сонечнага, грыбнога і працоўнага жыцця. Спакой, створаны тут, дапамог і літаратурнай рабоце — удалося зрабіць тое, што ў іншых абставінах не ўдалося б і за тры тэрміны».

*С. Ласкін. Ленінград.*

«Тут можна стамляцца і можна адпачыць. Тут можна ўзлятаць душою да зорак і акунуцца ў халодную плынь Іслачы — рэчкі, па берагах якой хадзіў у роздуме наш настаўнік, наш пачынальнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Мо, Ён толькі ў снах бачыў, што побач з Яго роднымі мясцінамі вырасце некалі Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў, што будзе іх шмат, і што яны будуць не толькі пісаць пабеларуску, але і свабодна друкаваць свае кнігі. Што яны будуць працягваць тую работу, якую Ён тут так цяжка пачынаў. Шчырае дзякуй Яму за гэта! Шчырае дзякуй людзям гэтага цудоўнага кутка!»

*У. Дамашэвіч. Беларусь.*



Дом творчасці «Іслач» размешчаны ў мясцінах, звязаных з жыццём і творчай дзейнасцю першага класіка новай беларускай літаратуры В. Дуніна-Марцінкевіча (1808-1884). Удзячныя нашчадкі, беларускія пісьменнікі, прысвоілі Дому творчасці «Іслач» імя В. Дуніна-Марцінкевіча. І гэта — справядліва. Калі б у змрочныя часы царызму не было ў беларусаў такіх самаахвярных асветнікаў, змагароў за родную культуру, мову, як В. Дунін-Марцінкевіч, то, відаць, не існавала б сёння ні рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі з яе больш чым чатырмастамі членамі, ні — тым болей — самога Дома творчасці...

Доктар філалагічных навук пісьменнік А. Мальдзіс прапануе (на старонках той жа «іслацкай» «Кнігі водгукаў і прапаноў») у аглядальнай вежы, якая пакуль што не выконвае ніякай функцыянальнай ролі, стварыць «вежу памяці» Беларускага Дудара. На сценах, у вітрынах, на пляцоўках вежы, апрача матэрыялаў пра В. Дуніна-Марцінкевіча, прапануецца размясціць здымкі і кнігі з аўтографамі тых пісьменнікаў, якія тут працавалі і адпачывалі, рукапісы і публікацыі асобных твораў, што напісаны ў Доме творчасці, і г. д. Так, на думку А. Мальдзіса, павінны стварацца добрыя традыцыі «Іслачы».

А тутэйшыя традыцыі ўжо ўзнікаюць, нягледзячы на тое, што Дом творчасці адносна малады. Гэта і «Іслацкія чытанні» — творчыя знаёмствы з пісьменнікамі амаль кожнага заезду, якія праходзяць у кіназале ці адной з камінных залаў. Гэта і штогадовыя нарады маладых беларускіх літаратараў, якія праводзяцца тут, на беразе Іслачы. Гэта і творы, што ў рубрыцы «Напісана ў «Іслачы» рэгулярна з'яўляюцца на старонках рэспубліканскай газеты «Літаратура і мастацтва». Дом творчасці «Іслач» — выдатнае месца для правядзення розных літаратурных сустрэч, семінараў, сімпозіумаў. Максімум зручнасцей для творчай працы і адпачынку, хатняя ўтульнасць, цішыня ствараюць тут своеасаблівы духоўны мікраклімат, у якім светла думаецца і хораша пішацца. Таму перыядычна прыязджаюць сюды на свае нарады літаратары не толькі з Беларусі, але з усяго Саюза і нават з-за мяжы. Так, у «Іслачы» праходзіў усесаюзны семінар публіцыстаў, тут збіраліся маладыя расійскія празаікі, замежныя перакладчыкі беларускай літаратуры і г. д. Кожны дзень, апрача беларускай і рускай, тут гучаць мовы многіх народаў СССР.

Спору і плёну ў працы, дарагія сябры!

Добрага адпачынку тут, дзе бруіцца крыштальная Іслач!



### 3. Ваколіцы

Агляд ваколіц — гэта аднaчасова і актыўны, багаты на эмоцыі адпачынак, своеасаблівая «падзарадка» для плённай творчай працы. Насельнікі «Іслачы» звычайна шмат ходзяць пешкі і, як правіла, у другой палове дня. Дыхаюць чыстым паветрам, збіраюць ягады, грыбы (улетку і восенню), аглядаюць навакольныя мясціны. Спалучаюць, так сказаць, прыемнае з карысным.

Можна назваць некалькі цікавых маршрутаў, разлічаных на пешыя прагулкі ў адзіночку ці невялікімі групамі. Несумненна, задавальненне прынясе паход «у прыроду» — уздоўж Іслачы, уніз па яе цячэнні. Звілістая лясная сцяжына, што праходзіць на правым, надзвычай маляўнічым, беразе ракі, прывядзе да невялікай вёсачкі Міхалова, каля якой у Іслач упадае Яршоўка. Тут можна выбраць два шляхі: звярнуць направа і пайсці поплавам уверх па цячэнні Яршоўкі або перайсці гэтую рэчку цераз мост і скіравацца ўслед за цячэннем Іслачы. Абодва маршруты цікавыя, вабіць вока прыгажосцю пейзаж. На лугах і ў лесе шмат гойных зёлак. І ў Іслачы, і ў Яршоўцы можна сустрэць даволі глыбокія завоіны, прыдатныя і для купання, і для рыбалкі. Аднак маршрут уздоўж Іслачы прываблівае больш, бо праз нейкі кіламетр за Міхаловам вас сустрэнуць невялікія, але даволі глыбокія рыбныя старыцы, што засталіся на месцы ранейшага рэчышча. Можна і пакупацца, і палавіць рыбу. А калі затым перасячом нешырокі бор, то выйдзем да Міжрэчча — прыгожай вёскі, дзе знаходзіцца Ракаўскі сырзавод. Яго прадукцыя — сыр «Пікантны», які паступае на прылаўкі мінскіх і маскоўскіх магазінаў,— карыстаецца нязменным попытам. Шаша, што праходзіць каля сырзавода, лёгка верне назад у «Іслач».

Калі, не даходзячы Міхалова, звярнуць рэзка ўлева і па старым драўляным мосце перайсці на левы бераг Іслачы, то ляснай дарогай можна выйсці на Пярэжарскую шашу, якая выведзе яшчэ на два цікавыя маршруты.

Давайце спачатку з шашы звернем направа. Праз нядоўгі час убачым пры дарозе Белы слуп — так тутэйшыя жыхары называюць помнік з гонтавай стрэшкай, пастаўлены на месцы адной з бітваў рускай арміі з войскамі Напалеона. Тут было знішчана нямала адступаючых варожых салдат, быў забіты французскі генерал. Каля Белага слупа -— два ўрослыя ў зямлю камяні. Паводле легенды, мясцовы пан жыўцом закапаў тут мамку з яе немаўлём — за тое, што яна ненарокам прыспала яго дзіця.

Пройдзем яшчэ паўкіламетра — і нашаму погляду адкрыецца ўся ў садах, у зеляніне вёска Пярэжары, дзе старыя людзі яшчэ і сёння памятаюць высокага, у акулярах чала-

века, ладнага «амерыканца» — Кастуся Стахоўскага (1877-1947). Тут ён нарадзіўся, у суседнім Ракаве скончыў царкоўнапрыходскую школу і рамеснае вучылішча, адсюль пайшоў у свет — паехаў у Вільню працаваць на Лібава-Роменскай чыгунцы машыністам. Мянушка ж «амерыканец» прыстала да яго таму, што большую частку свайго жыцця ён пражыў у Злучаных Штатах Амерыкі.

А здарылася гэта вось як.

К. Стахоўскі, калі працаваў у Вільні, наладзіў цесную сувязь з мясцовымі сацыял-дэмакратамі, прымаў актыўны ўдзел у падзеях 1905 г. Аднойчы падпольшчыкі арганізавалі на чыгунцы дыверсію, каб не прапусціць у Вільню царскія войскі, якія накіроўваліся для разгону дэманстрацыі. Жандары арыштавалі некаторых удзельнікаў дыверсіі, у тым ліку К. Стахоўскага. Аднак яму ўдалося ўцячы з-пад варты. З чужым пашпартам ён эмігрыраваў у Амерыку.

У ЗША, каб зарабіць кавалак хлеба, К. Стахоўскі працаваў чорнарабочым, вартаўніком, мулярам, перабраў дзесяткі прафесій, доўгі час заставаўся беспрацоўным. Аднойчы яму ўдалося ўладкавацца на будаўніцтва тунеля. Умовы працы былі невыносныя, але малады беларус адолеў усе нягоды. Гэта і дазволіла К. Стахоўскаму сабраць пэўную суму грошай, стаць, як кажуць, на ногі. Тады ж узнікла ў яго жаданне апісаць хвалёны амерыканскі «рай». Жыццёвых назіранняў хапала, творчая ўява не драмала, ды і пэўныя літаратурныя здольнасці прачнуліся.

Так нарадзіліся дзве кнігі, выдадзеныя пазней у Вільні — «Расказы амерыканскага халасцяка» (1937) і «Моль тлустая і моль худая» (1939). На шматлікіх жыццёвых прыкоадах,



надзвычай яскравых і праўдзівых, К. Стахоўскі паказаў знутры класавае размежаванне капіталістычнага грамадства, гаротнае становішча ў ім чалавека працы. Зразумела, ён не здолеў узняцца да такіх значных сацыяльных абагульненняў, не кажучы ўжо пра ўзровень пісьменніцкага майстэрства, як, скажам, Максім Горкі ў сваіх славутых нарысах «У Амерыцы» (1906). У той жа час «Расказы» К. Стахоўскага ў пэўным сэнсе дапаўняюць і пасвойму ілюструюць назіранні і развагі вялікага пралетарскага пісьменніка пра згубную сілу «жоўтага д'ябла» - грошай, пра перараджэнне буржуазнай культуры і г. д.

Дарэчы, назіранні М. Горкага і К. Стахоўскага адносяцца да аднаго і таго ж перыяду першага дзесяцігоддзя XX ст. І якраз гэты выйгрышны момант дазваляе без асаблівых нацяжак супаставіць творы зусім розных літаратараў — пісьменніка-класіка і пісьменніка-самавука.

К. Стахоўскі ў 1928 і 1935 гг. прыязджаў са Злучаных Штатаў Амерыкі на сваю радзіму ў Пярэжары. Тады ж ён у якасці турыста наведаў і Савецкі Саюз, пабываў у Мінску, Маскве, Ленінградзе, на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. У свой трэці прыезд дадому (1938-1939) ён пазнаёміўся ў Вільн*і* з Максімам Танкам. Паэт у сваім дзённіку, які пазней апублікаваў пад назваю «Лісткі календара», 1 лістапада 1938 г. запісаў: «У друкарні В. Труцькі, якая абаснавалася на вуліцы Міцкевіча, друкар Багаткевіч пазнаёміў мяне з дужа цікавым і арыгінальным аўтарам «Расказаў амерыканскага халасцяка» Стахоўскім. Яшчэ перад імперыялістычнай вайной Стахоўскі выехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе неяк удалося яму стаць на ногі і разбагацець. А займеўшы грошы, захацеў расказаць людзям пра тое, што бачыў, перажыў, перадумаў. Расказы свае ен дыктаваў стэнаграфісту, а потым даваў іх яшчэ нейкаму стылісту правіць. У Вільню ен прыехаў, каб наведаць сваіх родных і землякоў і выдаць сваю другую кнігу «Моль тлустая і моль худая»...

Зарobленыя грошы К. Стахоўскі высакародна патраціў на выданне дзвюх кніг. Кніг, якія сталі сціплым помнікам на яго самотнай магіле...

Калі ж, выйшаўшы на Пярэжарскую шашу, пайсці ў процілеглы бок, улева, а потым на першай развілцы дарог звярнуць управа, да вёскі Выганічы, то неўзабаве, перад самай вёскай, што прытулілася ў даліне невялікай рачулкі, мы ўбачым высокі помнік з высечаным на ім партрэтам. Надпіс на ім сведчыць, што ў Выганічах у 1821-1822 гг. жыў вядомы рускі пісьменнік-дзекабрыст А. Бястужаў-Марлінскі (1797-1837). Гэта ён, адзін з трох братоў Бястужавых — актыўных удзельнікаў дзекабрысцкага руху, вывеў 14 снежня 1825 г. на Сенацкую плошчу Пецярбурга салдат і афіцэраў падначаленага яму Маскоўскага палка, «задумаў царазабойства і знішчэнне імператарскай фаміліі» (з абвінавачага акта). Гэта яго, аўтара і выдаўца (сумесна з Кандратам Рылеевым) «Полярной звезды», аднаго з кіраўнікоў «Вольнага таварыства аматараў рускай славеснасці», Аляксандр Пушкін назваў «прадстаўніком густу і надзейным вартавым і заступнікам нашай славеснасці».

У 1821 г. гвардзейскі афіцэр, які прымаў удзел у вайсковых вучэннях, А. Бястужаў-Марлінскі ў пісьме сваім родным паведамляў: «Блукаючы два месяцы па дарогах Белай Русі,

забраліся, нарэшце, у Літву на зімоўе». Ён называў і адрас, куды яму пісаць: «Літва, вёска Выганічы, у 40 вёрстах ад Мінска». Літвой па традыцыі, якая ўзыходзіла яшчэ да Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і трымалася да канца XIX ст., А. Бястужаў-Марлінскі называў цэнтральную і заходнюю сённяшнюю Беларусь; пад Белай Руссю лічыў Віцебшчыну і Магілёўшчыну.

На зімоўку пісьменнік-афіцэр трапіў да мясцовага пана Фелікса Вайдзевіча, «небагатага, але вельмі добрага чалавека». «Ласкавая сям'я, кнігі на ўсіх мовах... фартэпіяна, разумныя і цвярозыя разважанні бацькі, добрая прыхільнасць маці, кампанія дачок, яшчэ больш мілых, чым прыгожых,— усё гэта абяцае мне нядрэнную зіму, а блізкасць горада [Мінска.— **В. Р.**] і самыя забавы»,— пісаў А. Бястужаў-Марлінскі родным у Пецярбург. Так яно і здарылася. Потым і ў Пецярбургу, і ў ссылцы — у Якуцку, а затым і на Каўказе пісьменнік-дзекабрыст не раз успамінаў і тутэйшыя мясціны, тутэйшыя песні і казкі, і «ласкавую сям'ю» Вайдзевіча, у малодшую дачку якога, Сіцылію, ён «быў закаханы да немагчымасці». І тое, як, вывучаючы тут польскую мову, чуючы ад мясцовых сялян мову беларускую, «распрацоўваў новую руду рускай мовы». Выганіцкія ўражанні пэўным чынам паўплывалі на фарміраванне светапогляду А. Бястужава-Марлінскага, увайшлі ў некаторыя яго літаратурныя творы (у прыватнасці, у нарыс «Вечар на Каўказскіх водах у 1824 годзе»),

У Выганічах кожны чалавек вам пакажа месца, дзе стаяў панскі дом. Ад яго засталіся цяпер толькі разваліны першага, мураванага, паверха (другі быў драўляны і згарэў у час Вялікай Айчыннай вайны). Дом гэты знамянальны яшчэ адной падзеяй: у ім нарадзіўся вядомы ў свой час кампазітар Міхаіл Грушвіцкі (1828-1904), сын старэйшай дачкі Ф. Вайдзевіча — Феліцыі. Лепшыя яго творы — гэта музыка да «Дзядоў» Адама Міцкевіча і «Вясковага лірніка» Уладзіслава Сыракомля Дарэчы, на помніку М. Грушвіцкаму на Ракаўскіх каталіцкіх могілках высечаны ноты песні кампазітара на словы У. Сыракомлі: «Тут лірнік вясковы спачыў...».

Вяртаючыся ў «Іслач», не лішне будзе агледзець невялікі хутар справа ад выганіцкай дарогі. Хутар гэты калісьці набыў вядомы ўжо К. Стахоўскі для свайго брата. У доме захаваліся і некалькі экземпляраў «Расказаў амерыканскага халасцяка», кнігі, якой няма цяпер нават у буйнейшых кнігасховішчах краіны.

Дагэтуль нашы паходы абмяжоўваліся мясцінамі прыіслацкімі. Аднак не менш цікавыя ўражанні можна атрымаць, перайшоўшы аўтастраду і пахадзіўшы лясамі і дарогамі, што на поўначы і паўночным захадзе ад Дома творчасці. Мясціны гэтыя не вельмі абжыты турыстамі, грыбнікамі і ягаднікамі. Каля недалёкай вёсачкі Лявонаўкі — невялікае вадасховішча. Тут жа пачынаецца дарога, якая выведзе ў вёску Бузуны з яе карасёвымі сажалкамі. Побач з Бузунамі — хутар Крупшчына, колішні маёнтак, якім, паводле некаторых звестак, валодалі продкі Н. К. Крупскай. Не менш цікавыя мясціны знаходзяцца і ў бок вёскі Палачанка (перад Міхаловам паварот з аўтастрады ўправа). Сюды на кароткі летні адпачынак і ў грыбы любіў прыязджаць Якуб Колас. У тутэйшых назвах — сама гісторыя, інтэрнацыянальнае братэрства плямён, народаў: Палачанка, Крывічы, Русакі, Татары...



## 4. Ракаў

Найбліжэйшы населены пункт, што за 2 км ад «Іслачы»,— мястэчка Ракаў. Цэнтр сельскага Савета і саўгаса «Ракаўскі», на землях якога і размясціўся Дом творчасці пісьменнікаў. Саўгас — прыбытковая гаспадарка мяса-малочнага кірунку, славу і багацце яму прыносіць найперш птушкагадоўля.

Відавочна, за адзін раз Ракаў не агледзіш, тым больш што наш паход можа мець і нейкія практычныя мэты. Тут знаходзяцца Дом культуры, сярэдняя школа, паштовае аддзяленне з тэлеграфам і міжгароднім тэлефонам, Дом быту, міжгародняя аўтастанцыя, бальніца, аптэка, кінатэатр, сельская бібліятэка, прамтаварныя, прадуктовыя і кніжны магазіны. Таму мэтазгодней двойчы ці тройчы наведацца ў Ракаў і кожны раз па новаму маршруту.

Ракаў — старадаўняе паселішча, пра што сведчаць стаянка эпохі неаліту, гарадзішча (мясцовая назва — Валы) і старажытны курган у пойме Іслачы. У афіцыйных дакументах



мястэчка ўпамінаецца ўжо ў 1465 г. Валодалі ім папераменна Кежгайлы, Завішы, Сангушкі, Салагубы. У канцы XVII — пачатку XVIII ст. тут асталяваліся дамініканцы, крыху пазней — базыльяне (адна з ракаўскіх вуліц — 8 Сакавіка — яшчэ нядаўна называлася Дамініканскай). Тады ж у Ракаве працавала друкарня, праходзілі пасяджэнні падкаморскіх (зямельных) і гродскіх (замкавых) судоў. З 1793 г., пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, Ракаў — у складзе Расійскай імперыі. Кацярына II падаравала мястэчка генерал-фельдмаршалу рускіх войск, графу, князю М. І. Салтыкову, які ў 1804 г. прадаў яго панам Здзяхоўскім. У XIX ст. ў Ракаве, тагачасным валасным цэнтры, працягвалі развівацца гандаль, ганчарства, розныя рамёствы, узнікалі майстэрні сельскагаспадарчых машын (сячкарняў, арфаў, малатарняў), пабудавалі цагельню, бровар, былі адкрыты народнае вучылішча (1863), царкоўнапрыходская і рамесная школы (80-я гг.), пошта. У 1897 г. ў Ракаве было 3640 жыхароў, значная колькасць іх — яўрэі, якія знайшлі тут прытулак паводле закона аб мяжы аселасці.

Вось што, у прыватнасці, пісала пра Ракаў газета «Наша ніва» ў 1911 г. (№ 35): «Мястэчка гэтае, закінутае ў глухі і неўраджайны кут, не маючы надзеі пракарміцца з зямлі, прымушана было заняцца другой работай. Гандаль і рамёсла працвітаюць тутака болей, чым па другіх нашых мястэчках. Мяшчане жывуць найбольш ганчарствам, кравецтвам, вырабам арф, сальніцтвам. Ганчарных майстэрняў ёсць 12-15; зарабляюць у іх людзі нядрэнна (ад 1 да 3 руб. у дзень). Таксама някепскі заработак дае гандаль свіньмі. Некаторыя сальнікі на гэтым разбагацелі і пакуплялі сабе дамы. Ганчарствам, сальніцтвам і кравецтвам

займаюцца хрысціяне, а малатарні і арфы вырабляюць жыды. Ракаўскія арфы славяцца на ўвесь Мінскі павет ды нават ідуць за межы яго.

...Пры самым мястэчку ёсць двор паноў Здзяхоўскіх. Цікавы ён тым, што ў ім ёсць вельмі старасвецкія акопы [Валы.— **В. Р.**], — як кажуць, яшчэ ад паганскіх часоў, і тутака быццам стаяла калісьці беларуская ці літоўская паганская бажніца».

Савецкая ўлада ў Ракаве ўстанавілася ў лістападзе 1917 г. Аднак наступілі неспрыяльныя абставіны: нямецкая, затым белапольская акупацыя, далучэнне мястэчка паводле Рыжскага мірнага дагавору 1921 г. да буржуазнай Польшчы. І толькі 17 верасня 1939 г. Ракаў зноў становіцца савецкім (з 15 кастрычніка 1940 г. да 16 ліпеня 1954 г. гарадскі, пасёлак). Ды ненадоўга. У першы тыдзень вайны ў чэрвені 1941 г. гарадскі пасёлак акупіравалі фашысты, якія пачалі ажыццяўляць палітыку татальнага знішчэння савецкіх людзей. Толькі ў яўрэйскім гета было спалена жывымі каля тысячы чалавек (на тым месцы ў 1955 г. пастаўлены помнік). Сотні людзей вывезлі ў Германію, адправілі ў канцэнтрацыйныя лагеры. Аднак народ не скарыўся. Многія ракаўцы пайшлі на фронт, у партызаны, змагаліся з акупантамі ў падполлі. Савецкія войскі вызвалілі Ракаў 5 ліпеня 1944 г. Пасёлак было не пазнаць: суцэльныя пагарэлішчы, ад агню ўцалелі толькі асобныя дамы. Сёння, калі глядзіш на акуратныя драўляныя тыпова беларускія хаты, выцягнутыя ўздоўж вуліц, на новыя мураваныя пабудовы, цяжка паверыць у такое. Аднак нават дагэтуль насельніцтва Ракава па сваёй колькасці не дасягнула даваеннага ўзроўню





(зараз тут жыве каля 2 тысяч чалавек).

Прыкметныя і культурныя традыцыі мястэчка. Ракаўцы са шкадаваннем успамінаюць, што бацькі Янкі Купалы зімою 1881-1882 гг. выехалі з Паморшчыны (цяпер гэта ўскраіна Ракава) у Вязынку. У Паморшчыне яны датуль арандавалі кавалак зямлі ў Здзяхоўскіх. Усяго, на жаль, некалькіх месяцаў не хапіла для таго, каб Ракаў стаў месцам нараджэння вялікага нацыянальнага паэта. Новая вуліца — імя Я. Купалы — злучыла Паморшчыну з Ракавам, як напамінак нашым сучаснікам пра гэтыя абставіны.

Інтэрнацыянальны Ракаў з'яўляецца месцам нараджэння яўрэйскага крытыка і літаратуразнаўца Уры Фінкеля (1896-1957), які, па словах Кузьмы Чорнага, «варты вялікай пашаны». У. Фінкель пісаў на яўрэйскай мове (ідыш). Ён — аўтар крытыка-біяграфічных нарысаў «А. Гольдфадэн» (1926; разам з Н. Айслендарам), «Мэндэле Мойхер-Сфорым» (1937), «Шолам-Алейхем» (1938), выдадзеных таксама па-беларуску, артыкулаў пра В. Бялінскага, М. Дабралюбава, Я. Купалу, Я. Коласа, З. Бядулю і інш.

Мы ўжо некалькі разоў згадвалі прозвішча паноў Здзяхоўскіх. Два перадваенныя прадстаўнікі гэтага роду — браты Мар'ян і Казімір, якія нарадзіліся ў Ракаве,— засталіся ў гісторыі польскай культуры, у летапісе беларуска-польска-рускіх літаратурных сувязей.

К. Здзяхоўскі (1878-1942) скончыў Мінскую гімназію і Маскоўскі універсітэт. Жыў і працаваў у Ракаве, у сваім маёнтку. Тут былі напісаны яго раманы «Перамены» (1906), «Зарыва» (1908), «Апора» (1912), «Крэсы» (1920), «Злачынства» (1922) і інш., у якіх





У *сталовай кормяць смачна і разнастайна.*

адлюстравана жыццё дробнай шляхты і сялянства на тэрыторыі Беларусі. У час нямецкай акупацыі Ракава ўключыўся ў падпольную дзейнасць. Загінуў у фашысцкім канцэнтрацыйным лагеры ў Асвенціме.

Выключна цікавай асобай з'яўляецца М. Здзяхоўскі (1861-1938), прафесар Ягелонскага і Віленскага універсітэтаў, член Польскай акадэміі ведаў, адзін з заснавальнікаў кракаўскага «Славянскага клуба». Ён таксама скончыў Мінскую гімназію, пасля вучыўся ў Пецярбургскім і Дэрпцкім універсітэтах. М. Здзяхоўскаму належыць больш як 20 манаграфій, прысвечаных польскай, рускай і заходнееўрапейскай літаратурам, сувязям польскай культуры з усходне- і паўднёваславянскімі («Байран і яго век», т. 1-2, 1894-97; «Погляды Красінскага», 1912; «Рускія ўплывы на польскую душу», 1920; «Уладыкаў Сыракомля: Літоўска-беларускі элемент у

творчасці польскай», 1924; «Рэнесанс і рэвалюцыя», 1925, і інш.). Пад псеўданімам М. Урсин пісаў і друкаваўся і на рускай мове.

Для М. Здзяхоўскага Ракаў, у якім ён праводзіў штогод па некалькі вясенне-летніх месяцаў, калі прыязджаў сюды з Пецярбурга ці Дэрпта, з Кракава або з Вільні, станавіўся на нейкі час літаратурнымі пенатамі. І не толькі для М. Здзяхоўскага і яго брата Казіміра, але і для іншых пісьменнікаў і вучоных. Дастаткова сказаць, што сюды, у госці да Здзяхоўскіх, прыязджала Э. Ажэшка, якая, дарэчы, называла Ракаў беларускімі Афінамі. І ракаўскі брук, які чуў хаду В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Э. Дзяржынскага, радасна адклікаўся на паважную хаду аўтаркі «Хама» і «Над Нёманам». Ракаў з'яўляўся своеасаблівым перавалачным пунктам для М. Здзяхоўскага, калі ён ехаў з Кракава або Вільні ў Маскву ці Пецярбург, а таксама для некаторых іншых палякаў, добрых знаёмых вядомага прафесара. У Ракаў, на імя М. Здзяхоўскага, ішла карэспандэнцыя як з Расіі, так і з Польшчы, адсюль адпраўляліся яго лісты ў многія польскія і рускія гарады.

У біяграфіі М. Здзяхоўскага надзвычай цікавыя старонкі яго сувязей з Львом Талстым, з якім ён перапісваўся ў 1895-1908 гг., да якога ездзіў у жніўні 1896 г. ў Ясную Паляну. М. Здзяхоўскі паслаў Л. Талстому дзевяць лістоў, на чатырох з іх месцам адпраўкі пазначана: «Паштовая станцыя Ракаў Мінскай губерні». Захаваліся тры лісты аўтара «Вайны і міру» да М. Здзяхоўскага, што прыйшлі на тую ж «паштовую станцыю Ракаў» (дарэчы, будынак той пошты захаваўся да нашага часу). Адзін з лістоў Л. Талстога (па сутнасці, невялікі артыкул па «польскаму пытанню») у выглядзе прадмовы ўвайшоў у брашуру М. Здзяхоўскага





«Рэлігійна-палітычныя погляды польскага грамадства», якая пад псеўданімам М. Урсин была выдадзена ў 1896 г. ў Лейпцыгу.

Многае пра Ракаў можна даведацца ў школьным гісторыка-краязнаўчым музеі, створаным вучнямі пад кіраўніцтвам апантанага краязнаўца, былога настаўніка гісторыі Ракаўскай СПІ В. П. Налецкага. Помніцца, з якой цікавасцю разглядаў экспанаты музея У. Караткевіч, якога я, карэнны ракавец, ганарова вадзіў туды яшчэ ў канцы 60-х гг. Пісьменнік любіў Ракаў, неаднаразова бываў тут, нават марыў набыць у гэтых ваколіцах дачу. Для У. Караткевіча было своеасаблівым, радасным адкрыццём і існаванне прыватнага музея ракаўскай керамікі, створанага сучасным беларускім мастаком Феліксам Янушкевічам у бацькоўскай хаце. У зборы Ф. Янушкевіча — кафля XVI-XIX стст., паліваныя

гладышы, дзіцячыя забаўкі, прыборы для пісьма і інш.

Дарэчы, усе пяцёра братоў Янушкевічаў перспектыўна заявілі пра сябе ў беларускім мастацтве і навуцы. Апрача Фелікса, гэта фізік Казімір (кандыдат фізіка-матэматычных навук), літаратуразнавец Язэп (кандыдат філалагічных навук), скульптар Альгерд, графік Валерый.

Агляд славутасцей Ракава, відаць, варта пачаць з месца былога драўлянага палаца Здзяхоўскіх (не захаваўся). Гэта — побач з касцёлам, пабудаваным на самым пачатку нашага стагоддзя ў неагатычным стылі (зараз касцёл рэстаўрыруецца). На месцы палаца цяпер стаіць ракаўскі сельскі Дом культуры. Побач — брацкая магіла воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. З высокага пясчанага пагорка добра відаць старажытны курган у забалочанай пойме Іслачы і гарадзішча (Валы) на супрацьлеглым беразе ракі.

Поруч з касцёлам — старасвецкі будынак былой царскай пошты, куды калісьці прыходзілі лісты Л. Талстога. Ракаўская пошта — адна са старэйшых на Беларусі. Да касцёла падыходзіць, бадай, самая старая з тых, што захаваліся, ракаўскіх вуліц — 8 Сакавіка (былая Даміліканская). Прайшоўшыся па ёй, удыхнуўшы водар даўніны, спусцімся да Іслачы, пяройдзем яе па пешаходным мосціку і міма дзіцячага санаторыя «Пралеска» пройдзем у Паморшчыну. Стары бровар, які не стамляецца і сёння, нагадвае нам пра часы, калі тут кавалак зямлі арандавалі Дамінік і Бянігна Луцэвічы — бацькі вялікага беларускага паэта. Вуліцаю Янкі Купалы, якая затым пераходзіць у вуліцу Пушкіна, мінуўшы будынак даўнейшай — яшчэ дарэвалюцыйнай — школы, старыя яўрэйскія могілкі, вернемся зноў у цэнтр. Тут нельга не спыніць увагу на праваслаўнай Праабражэнскай царкве, перабудаванай у 1793 г. з уніяцкага сабора. Перад царквою — масіўная цагляная брамазваніца. Гэта таксама помнік архітэктуры, хоць і ўзведзены ён значна пазней, у 1888 г. Брама-званіца — мабыць, адзіны на Беларусі помнік, пастаўлены ў гонар 25-годдзя вызвалення сялян ад прыгоннага права.

Непадалёку ад царквы на месцы былога гета — магіла ахвяр фашызму, дзе пахаваны прах 950 чалавек, якіх 4 лютага 1942 г. спалілі жывымі нямецка-фашысцкія акупанты. Гэта побач з вуліцаю Чырвонаармейскай, дзе ў доме № 20 нарадзіўся і жыў У. Фінкель.

З боку Мінска да Ракава прымыкаюць праваслаўныя і каталіцкія (з капліцай другой паловы XIX ст.) могілкі. На каталіцкіх, як мы ўжо гаварылі, пахаваны кампазітар М. Грушвіцкі. На праваслаўных пахаваны савецкі оперны спявак, заслужаны артыст УССР Вячаслаў Кабржыцкі (1906-1985), які апошнія гады падоўгу жыў у Ракаве і дзе завяшчаў сябе пахаваць.

Своеасаблівая славутасць Ракава — кірмаш, які праводзіцца па нядзелях. Яшчэ ў 1701 Салагубы, колішнія ўладальнікі мястэчка, атрымалі ад караля Аўгуста II грамату на ўсталяванне тут двух кірмашоў. З таго часу і віруе тут вясковы кірмаш, на якім можна купіць садавіну, гародніну, мясныя прадукты, жывую свойскую жывёлу, а таксама пачуць каларытную беларускую гаворку. Трэба толькі памятаць: рынак пачынае працу вельмі рана, у гадзін шэсць, гадзін да дзевяці людзі ўжо разыходзяцца, фурманкі і машыны раз'язджаюцца.



## 5. Валожыншчына ўчора і сёння

Перш чым адправіцца на аўтобусную экскурсію па цікавых мясцінах Валожынскага раёна, давайце пазнаёмімся з яго агульнай характарыстыкай, якая даецца ў розных энцыклапедычных даведніках.

Утвораны раён 15 студзеня 1940 г., пасля уз'яднання Заходняй Беларусі з БССР, размешчаны на захадзе Мінскай вобласці. Плошча 2 тысячы км$^2$. У 438 населеных пунктах пражывае цяпер каля 55 тысяч чалавек, з іх 29 % у горадзе Валожыне і гарадскім пасёлку Івянец, астатнія — у 17 сельсаветах. У раёне 16 калгасаў і 7 саўгасаў. Працуюць 17 сярэдніх, 28 васьмігадовых і 17 пачатковых школ, у якіх вучыцца больш за 7,4 тысячы вучняў. Да паслуг насельніцтва раённы, пасялковы і 14 сельскіх Дамоў культуры, 37 клубаў, 64 бібліятэкі, 3 тыпавыя кінатэатры і 53 кінаўстаноўкі.

Прыродна-кліматычныя ўмовы Валожынскага раёна ў цэлым спрыяльныя і для сельскагаспадарчай працы, і для здаровага адпачынку. Па адгор'ях двух узвышшаў — Мінскага (усход) і Ашмянскага (поўдзень), па нізінах уздоўж рэк Бярэзіны і Ісвачы распасцерліся палі, з якіх збіраюць нядрэнныя ўраджаі збожжавых, бульбы, лёну, гародніны. Гэтаму садзейнічаюць і адносна немалы вегетацыйны перыяд (190 дзён), і дастатковая колькасць ападкаў (660 мм у год), і даволі густая гідраграфічная сетка, што дазваляе, калі трэба, арашаць палі і сенажаці. Пад лесам занята 35 % тэрыторыі раёна, асноўны лясны масіў — Налібоцкая пушча — на паўднёвым захадзе.

У раёне працуе вялікі атрад інтэлігенцыі. Адных настаўнікаў толькі 1115 чалавек, з іх 847 маюць вышэйшую адукацыю. Выдаецца раённая газета «Працоўная слава», пры якой існуе літаратурнае аб'яднанне «Рунь». Валожыншчына дала беларускай навуцы і культуры нямала вучоных, пісьменнікаў, мастакоў, грамадскіх дзеячаў. У Лоску і Вішневе жыў і тварыў выдатны гуманіст, пісьменнік-палеміст, асветнік Сымон Будны (1530-1593). У Люцінцы, як ужо адзначалася, сорак чатыры гады прапрацаваў заснавальнік новай беларускай літаратуры В. Дунін-Марцінкевіч. З былога маёнтка Адамарын (пагранічча Валожынскага і Маладзечанскага раёнаў) выйшлі ў свет браты Дыбоўскія: Бенядзікт Іванавіч (1833-1930), славуты біёлаг, член-карэспандэнт АН СССР, і Уладзіслаў Іванавіч (1838-1910), доктар мінералагічных навук, вядомы батанік, заолаг. У Ясьманаўцах нарадзіўся герой грамадзянскай вайны, славуты камандзір сібірскіх партызан Іван Біч (1881-1919); помнікі яму стаяць у Ясьманаўцах і далёкім Тайшэце. Былы маёнтак Багданава — родная мясціна выдатнага мастака Фердынан-

да Рушчыца. У Івянцы ўсё сваё жыццё пражыў народны мастак, рэзчык па дрэве Апалінарый Пупко. Валожыншчына — радзіма сённяшняга Старшыні Савета Міністраў БССР Вячаслава Францавіча Кебіча. З гэтым краем звязана жыццё і творчая дзейнасць Кандрата Крапівы, сучасных беларускіх пісьменнікаў Казіміра Камейшы і Валянціна Рабкевіча... Гэта толькі некаторыя з вядомых людзей, чый жыццёвы лёс звязаны з валожынскай зямлёй. Сёння іх эстафету служэння роднай культуры нясуць паэт і перакладчык Пятро Бітэль з Вішнева, крытык і гісторык літаратуры Віктар Шніп з Пугачоў і інш.

Вось мы ў агульных рысах і пазнаёміліся з Валожыншчынай.

А цяпер прадоўжым знаёмства з ёю ўжо непасрэднае, канкрэтнае.

Адна толькі заўвага: магчыма, за адзін раз з усімі мясцінамі, якія апісаны ў гэтым маршруце, будзе пазнаёміцца цяжка — не хопіць часу. Тым больш, што трэба ўлічыць і такія «празаічныя» зацікаўленні падарожнікаў, як знаёмства з тутэйшымі прамтаварнымі і кніжнымі магазінамі (у іх часам сустрэнеш тое, чаго днём з агнём не знойдзеш нават у сталічных універмагах і кнігарнях). Таму маршрут лепш асвоіць за два падарожжы. У такім разе першая частка яго завершыцца знаёмствам з Валожынам. І па дарозе можна заехаць яшчэ ў Яршэвічы і Пяршаі.

...Аўтобус імчыць нас на захад па той самай шашы, па якой ехалі з Мінска. Злева і справа мільгаюць паказальнікі паваротаў на цікавыя сваёй мінуўшчынай і сённяшнім днём вёскі: Яршэвічы, Пяршаі, Доры... У Яршэвічах цікавая каменная царква, пабудаваная ў дру-





гой палове XIX ст. ў псеўдарускім стылі, старажытнае гарадзішча, працуе адзіная ў раёне калгасная школа мастацтваў. У Пяршаях у XVI ст. існавала друкарня, у мясцовай школе адкрыты музей В. Дуніна-Марцінкевіча. Доры напаткаў лёс Хатыні — фашысты ў мясцовай драўлянай царкве спалілі 257 мірных жыхароў... Паварот на Папкі (налева) прымусіць нас скіраваць на гравійку, праехаць па ёй 5 км, каб трапіць у святую для кожнага беларуса мясціну — вёску Люцінка. Менавіта тут у сярэдзіне мінулага стагоддзя кавалася новая беларуская літаратура, шліфавалася сучасная беларуская літаратурная мова. Каваль той — В. Дунін-Марцінкевіч — не ведаў спакою ні днём, ні ноччу. І не толькі таму, што яго — паэта, драматурга, перакладчыка, тэатральнага дзеяча — пёк запал творчага натхнення і ён са сваіх грудзей выпускаў «песню за песняй... як жывую крыніцу» (Я. Купала). Але і таму, што за ўдзел у паўстанні 1863 г. ён доўгі час быў пад строгім паліцэйскім наглядам, апрача гэтага перажываў за лёс дачкі Камілы, якую саслалі ў Сібір. Таму, што адчуваў ганенне з абодвух бакоў — афіцыйных царскіх улад, якія называлі яго «першым і самым энергічным агітатарам цяперашніх беспарадкаў», і польскіх шляхецкіх шавіністаў, якім не падабалася яго «беларусаманія», «хлопаманія».

Фальварак Люцінку В. Дунін-Марцінкевіч купіў у межавога суддзі А. Сялявы ў 1840 г. Усё, што мы ведаем сёння з твораў пісьменніка («Гапон», «Купала», «Пінская шляхта», «Залёты», «Халімон на каранацыі» і інш.), напісана тут, у хаціне, якая калісьці стаяла на пагорку пад разложыстай ліпай. Два творы — паэмы «Люцінка, або Шведы на Літве» і «З-пад





Ісланчы, або Лекі на сон» — непасрэдна апавядаюць пра гэтыя мясціны.

Марцінкевічава хата (а яна згарэла яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя, потым, пасля Вялікай Айчыннай вайны, адноўленую, яе знішчылі як «панскае гняздо») помніла С. Манюшку, У. Сыракомлю, Аляксандра і Міхаіла Ельскіх, іншых дзеячаў польскай і беларускай культуры. У гэтай хаце адзін час існавала прыватная школка, у якой, дарэчы, вучыўся вядомы беларускі пісьменнік пачатку XX ст. Ядвігін Ш. (у яго ёсць апісанне сядзібы В. Дуніна-Марцінкевіча). Ад хаты засталіся падмурак ды цэментавы ганак, каля якога ўстаноўлена памятная стэла з барэльефам пісьменніка. Плануецца на гэтым месцы пабудаваць мемарыяльны Дом-музей аўтара бессмяротнай «Пінскай шляхты». На рахунак Беларускага аддзялення Усесаюзнага фонду культуры паступаюць ужо сродкі на будаўніцтва гэтага музея. Цікава, што разам са студэнтамі-філолагамі БДУ імя У. І. Леніна застрэльшчыкамі гэтай пачэснай справы выступілі артысты Львоўскага ўкраінскага драматычнага тэатра імя М. Заньканвецкай.

Кожнае лета тут, у Люцінцы, праходзіць раённае свята В, Дуніна-Марцінкевіча, у якім самы чынны ўдзел прымаюць пісьменнікі, што працуюць і адпачываюць у «Іслачы». Цікава і павучальна паглядзець на выяўленне глыбокай любові валожынцаў да свайго славутага земляка. Калі ж вам не ўдасца пабываць на гэтым свяце, пастарайцеся наладзіць кантакт і сустрэцца з мясцовым краязнаўцам настаўнікам Генадзем Антонавічам Равінскім. Чалавек, улюбёны ў родны край, глыбокі знаток яго гісторыі, ён горача і эмацыянальна раскажа вам пра такія падрабязнасці






*Купалава «муза».*

жыцця беларускага Дудара ў Люцінцы, пра якія нідзе не вычытаеш.

Развітаўшыся з Люцінкай, выязджаем зноў на шашу і накіроўваемся ў Валожын.

Валожын вядомы па дакументах з XIV ст. Спачатку належаў праваслаўным князям Валожынскім, якія, згодна Хронікі Быхаўца, выступілі ў XV ет. супраць уніі Літвы з Польшчай, за дзяржаўную самастойнасць Вялікага княства Літоўскага, пасягнулі на жыццё самога вялікага князя Вялікага княства Літоўскага і караля Польшчы Казіміра IV. Дзяржаўны пераварот не ўдаўся. Пяць братоў Валожынскіх пакаралі смерцю. Кароль

падарыў Валожын свайму вернаму слузе Монвіду. Затым на працягу наступных стагоддзяў горад пераходзіў з рук у рукі. Ім папераменна валодалі Гаштольды, Радзівілы, Слушкі (яны заснавалі тут у 1681 г. бернардзінскі кляштар і пры ім школу). З 1793 г. Валожын, пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, у складзе Расійскай імперыі. Радзівілы трапілі ў няміласць да Кацярыны II. Яна рэквізавала ў іх горад і падарыла свайму фаварыту Адаму Чартарыйскаму, які за сто тысяч злотых прадаў яго ў 1803 г. графам Тышкевічам. Тышкевічы валодалі Валожынам разам з палямі і лясамі, што прылягалі да горада, ажно да 1939 г.

Спыняемся ў цэнтры горада, на плошчы Свабоды, адкуль калісьці і пачалося фарміраванне паселішча. Сёння плошчу абрамляюць Дом Саветаў, Дом культуры, кінатэатр, гандлёвы рад з універмагам і даволі багатай кнігарняй. Каля Дома Саветаў — брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан, дзе пахавана 160 абаронцаў Радзімы, у тым ліку Герой Савецкага Саюза В. В. Шчарбіна. Увагу экскурсантаў, несумненна, прыцягне касцёл святога Юзафа з масіўнай брамай-званіцай. Касцёл узведзены ў 1816 г., у 1864 г. перабудаваны ў царкву. З'яўляецца помнікам архітэктуры класіцызму.

У стылі класіцызму створаны і сядзібна-паркавы ансамбль з палацамі і флігелямі, з маляўнічым калісьці пейзажным паркам. Палацы (плошча Свабоды, 4 і 4а; зараз тут адміністрацыйныя будынкі) будаваліся ў 1782-1908 гг. у гістарычным цэнтры горада на беразе невялікай рэчкі Валожынкі. Валодалі будынкамі графы Тышкевічы (іх летняя рэзідэнцыя знаходзілася за 6 км ад Пяршаяў, ва



урочышчы Вялае). Пазней стыль класіцызму стаў вызначальным ва ўсім валожынскім дойлідстве, стаў прыкметай нават звычайных жылых пабудоў. Каб пераканацца ў гэтым, варта заглянуць на вуліцу Горкага. Жылыя дамы (№ 2, 4, 7, 9, 10, 16), пабудаваныя ў 1920-я гг.,— помнікі архітэктуры неакласіцызму.

Агледзеўшы цэнтр горада, сядаем у аўтобус і выязджаем на вуліцу Савецкую. Нашу ўвагу прыцягвае невялікая драўляная царква Канстанціна і Алены, пабудаваная ў 1866 г. Царква — яскравы помнік драўлянага дойлідства. Насупраць царквы (вуліца Савецкая, 49) — старасвецкая хаціна з прымацаванай на яе сцяне мемарыяльнай шыльдай. У гэтай хаце нарадзіўся і да 1914 г. жыў беларускі паэт-самавук, колішні ляснічы графа Тышкевіча Стары Улас (Уладзіслаў Пятровіч Сівы-Сівіцкі; 1865-1939). Стары Улас быў актыўным супрацоўнікам беларускай газеты «Наша ніва» (1906-1915), дзе надрукаваў нямала цікавых вершаў і вершаваных апавяданняў, допісаў. Асноўныя тэмы яго творчасці — прыгажосць роднага краю, нялёгкае жыццё селяніна, узаемаадносіны людзей у сям'і, у грамадстве, розныя пытанні этыкі, маралі. Найбольш цікавы яго твор — паэма «Год беларуса», у якой у адпаведнасці з чатырма цыкламі сялянскага календара (вясна, лета, восень, зіма) каларытна апісаны жыццёвыя клопаты і скупыя радасці дарэвалюцыйнага беларуса.

Пасля невялікага прыпынку — далей на захад, да старадаўняга Вішнева. Дваццаць кіламетраў шляху — гэта любаванне прыгожымі ваколічнымі мясцінамі, тутэйшымі прыдарожнымі вёскамі, выцягнутымі ўздоўж вуліцы.

Сярод вёсак сваёй даўжынёю (ажно 3 км) і прыгажосцю вылучаецца Сакаўшчына (радзіма пісьменніка, члена-карэспандэнта АН БССР В. Каваленкі). Каля Сакаўшчыны — даволі вялікае рыбнае возера з яго славутымі белымі лебедзямі.

Вішнева ўпершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах першай паловы XVI ст. як уладанне князёў Гальшанскіх, пазней — Пачаў. Тут здаўна выплаўлялі жалеза з балотнай руды, у XVIII-XIX стст. нават працаваў чыгуналіцейны завод князёў Храптовічаў з доменным працэсам, былі гута, цагельня, ганчарня, бровар, млын. Іахім Храптовіч (1729-1812) з'яўляўся не толькі выдатным асветнікам (адкрыў у 1775 г. ў Вішневе павятовую школу, арганізаваў у сваім Шчорсаўскім маёнтку буйнейшую па тым часе бібліятэку), палітычным дзеячам (канцлер Вялікага княства Літоўскага, стваральнік Адукацыйнай камісіі), але і перадавым для свайго часу чалавекам. Задоўга да 1861 г. ён адмяніў у сваіх маёнтках Вішнева і Шчорсы прыгоннае права і ўвёў чынш — арэнднае карыстанне зямлёй. Вольныя сяляне сталі першымі рабочымі на яго вішнеўскіх прадпрыемствах. Сапраўдную славу Вішневу прынесла духоўная культура, дойлідства.

Вішнёўцы з гордасцю вам раскажуць, што тут апошнія гады жыў і памёр славуты гуманіст і асветнік, прадаўжальнік традыцый Францыска Скарыны, перакладчык на беларускую мову «Катэхізіса» (Нясвіж, 1562) С. Будны. Нават узгорак пакажуць, дзе, паводле падання, і пахаваны вядомы мысліцель і пісьменнік, які пераехаў у Вішнева з недалёкага адсюль (усяго 20 км) Лоска, дзе ён выдаў свае шырокавядомыя ў свой час творы:





***Валожынскі палац.***

«Новы запавет» (1574), «Пра найважнейшыя артыкулы хрысціянскай веры» (1576), прадмову да трактата Анджэя Маджэўскага Фрыча «Пра ўдасканаленне Рэчы Паспалітай» (1577), «Пра свецкую ўладу» (1583) і інш.

Недалёка ад узгорка касцёл Марыі з брамай-званіцай — помнік архітэктуры з рысамі стыляў рэнесансу, ранняга і позняга барока, ракако. На франтоне касцёла дата: 1442 г. Але гэта — дата самай ранняй, драўлянай культавай пабудовы, якая стаяла на гэтым месцы. Касцёл Марыі ўзведзены з цэглы значна пазней, у 1637-1641 гг. Ён вельмі прыгожы ўсярэдзіне. Захапленне выклікае драўляны алтар XVIII ст. са скульптурамі евангелістаў і анёлаў, каваныя дзверы XVII ст., арачныя нішы, пілоны, упрыгожаныя паліхромнай арнаментальнай размалёўкай работы Ф. Рушчыца. Калі вам пашанцуе, то ў час набажэнства зможаце паслухаць і

цудоўны старадаўні арган, а таксама прыгожую беларускую мову з вуснаў ксяндза Чарняўскага аднаго з вельмі нямногіх ксяндзоў, якія ў беларускіх касцёлах праводзяць богаслужэнне не па-польску, як здаўна павялося, а па-беларуску. Цалкам свядома, у адрозненне ад іншых ксяндзоў, ён прыпыніў далейшае апалячванне беларусаў праз касцёл, сам пераклаў з лацінскай мовы на беларускую Біблію, малітвеннікі.

Увагі заслугоўвае і Вішнеўская Казьма-Дзям'янаўская царква, пабудаваная ў заходняй частцы мястэчка ў 1865 г. з бутавага каменю. Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

Раз мы ў Вішневе — грэх не пабываць у былой рэзідэнцыі графоў Храптовічаў Андрывонш, што знаходзіцца за паўтара кіламетра адсюль. Цяпер тут піянерскі лагер «Царамок» Мінскага маторнага завода. Зразумела, што за некалькі стагоддзяў (рэзідэнцыя будавалася ў сярэдзіне XVIII ст.) гэтая мясціна змянілася непазнавальна. Аднак крыху фантазіі — і вы зможаце ўявіць прыгожы двухпавярховы каменны палац з вежай, падсобныя пабудовы, дзесяцігектарны парк-дэндрарый, сістэму каналаў і сажалак. Тым больш, што сёе-тое ад мінулай раскошы ўсё ж засталося. У тым ліку асобныя вельмі рэдкія (нават, можа, адзінкавыя) для Беларусі дрэвы: ліванскі кедр, елка канадская, карыя авальная, клён серабрысты, дуб чырвоны, яблыня ягадная, айва японская...

Людзям, якія маюць непасрэднае дачыненне да літаратуры, відаць, цікава будзе даведацца, што ў Вішневе ў 1906-1913 гг. жыла вядомая беларуская паэтэса, аўтар славутай песні «Люблю мой край, старонку гэту» (яна стала неафіцыйным гімнам беларускіх



эмігрантаў) К. Буйло (1893-1986). Па-сутнасці, у Вішневе яна напісала ўсе творы, што склалі яе першую кніжку «Курганная кветка» (Вільня, 1914), адрэдагаваную самім Я. Купалам. У Вішневе захавалася хата, у якой жыла К. Буйло, на тутэйшых могілках, паводле завяшчання паэтэсы, пахаваны яе прах (пачынаючы з 20-х гг. яна жыла ў Маскве, дзе і памерла).

У гісторыка-краязнаўчым музеі Вішнеўскай СШ (а ў ім, калі стане часу, варта пабываць) сабраны матэрыялы і пра іншых вядомых землякоў — дзеячаў беларускай культуры. Экспанаты расказваюць пра ўраджэнку Вішнева заслужанага дзеяча культуры БССР, сябра і жонку Я. Купалы Уладзіславу Францаўну Луцэвіч (1891-1960). Ёсць матэрыялы пра цікавага беларускага паэта, выпускніка Вішнеўскай дзесяцігодкі, ураджэнца суседніх Лінкоў Хведара Чэрню (1939-1983). Асобныя рукапісы, кнігі перадаў музею і жыхар Вішнева пісьменнік П. Бітэль, які ў 1956-1974 гг. выкладаў у школе беларускую і нямецкую мовы. П. Бітэль — аўтар цікавых гістарычных паэм, што склалі кнігі «Замкі і людзі» (1968), «Паэмы» (1986), «Дзве вайны» (1990), а таксама выдатных перакладаў, сярод якіх — творы А. Міцкевіча (у тым ліку «Пан Тадэвуш»), І. Крашэўскага, Дантэ і інш.

Мы ўпаміналі ўжо імя мастака Ф. Рушчыц (1870-1936). Яго родная мясціна — вёска Багданава, таксама вельмі старажытная (упамінаецца ў другой палове XVI ст.), з багатай гісторыяй (спачатку сядзіба Сапегаў, потым — Пацаў, Данілевічаў, Чаховічаў і з 1839 г.— Рушчыцаў). Да Багданава і пракладаецца наш далейшы шлях.

У Багданаве ў сям'і збяднелага шляхціца нарадзіўся Ф. Рушчыц. Скончыў Мінскую гімназію. Вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, а потым у 1892-1897 гг. у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Яго настаўнікамі былі вядомыя рускія майстры жывапісу І. Шышкін і А. Куінджы, якія здолелі раскрыць і адшліфаваць арыгінальны талент сына беларускай зямлі.

Лепшыя творы Ф. Рушчыца звязаны з роднымі мясцінамі. Гэта «Мінск зімою» (1895), «Млын ноччу» (1898), «Мост зімою» і "У свет" (1901), "Эмігранты" (1902), «Зімовая казка» (1904) і інш. Багданаўскія палі і ўзгоркі увайшлі ў яго, магчыма, найлепшую карціну "Зямля" (1898). У карціне "Каля касцёла" (1899) жыхары Багданава лёгка пазнавалі драўляны вясковы касцёл Міхаіла, пабудаваны у 1844 г. На жаль, нядаўна стары пашкоджаны касцёл разбураны, захаваўся толькі высокі каменны тын вакол дзяцінца. Не засталося і дома Ф. Рушчыца, дзе ён нарадзіўся і гадаваўся, куды прыязджаў на адпачынак з Варшавы, Кракава і Вільні (там ён прафесарстваваў у розных навучальных установах), дома, дзе з 1932 г. ўжо бязвыездна жыў і памёр мастак. Толькі высачэзныя старасвецкія ліпы-абсады вызначаюць месца колішняй пабудовы.

Аднак у Багданаве ёсць усё ж некалькі мясцін, якія нагадваюць пра Ф. Рушчыца. Гэта і невялікі пакой-музей мастака ў мясцовай школе, і памятная пліта перад школай з адпаведным надпісам, і, урэшце, магіла Ф. Рушчыца на мясцовых могілках. Адсюль, з высокага магільнага пагорка, як на далоні відаць родную вёску мастака: хаты, сады, агароды, палі… Адным словам — Зямля, якая нарадзіла свайго песняра і якая з удзячнасцю прыняла яго прах у сваё лона.

Далейшы, апошні пункт нашай паездкі — легендарныя Гальшаны, колішняя сталіца (у XIV-XV стст.) удзельнага княства. Праўда, Гальшаны размешчаны ўжо за тэрыторыяй Валожынскага раёна (гэта Ашмянскі раён Гродзенскай вобласці). Аднак і ад Багданава яны недалёка (12 км), і гістарычна з Валожыншчынай вельмі цесна звязаны. Ды і да літаратуры маюць непасрэднае дачыненне. Разваліны Гальшанскага замка навеялі У. Караткевічу сюжэт шырокавядомага рамана «Чорны замак Альшанскі». Да яго, гэтага замка, і кіруемся мы найперш.

Гальшаны ўпамінаюцца ў дакументах з 1280 г. як уладанне князёў Гальшанскіх. Гальшанскія займалі высокія пасады ў Вялікім княстве Літоўскім, уплывалі на лёс і самога княства і суседніх зямель. У прыватнасці, як сведчыць Хроніка Быхаўца, тут, у Гальшанах, у 1440 г. беларускія і літоўскія магнаты вырашылі ўзвесці на велікакняжацкі пасад сына Ягайлы Казіміра — будучага вялікага князя Вялікага княства Літоўскага і караля Польшчы Казіміра IV (менавіта супраць яго выступілі, як сказана вышэй, князі Валожынскія).

Гальшанскі палац (замак) быў пабудаваны на мяжы XVI-XVII стст. П. Сапегам, які на той час стаў валодаць мястэчкам (род Гальшанскіх вымер у 1556 г.). Гэта было прыгожае і магутнае збудаванне. Нават тое, што збераглося: уязная брама ў выглядзе гранёнай вежы ў сярэдзіне прадаўгаватага паўночнаўсходняга крыла, рэшткі сцен з вітымі ўсходамі, вялізныя падвалы з тоўстымі скляпеннямі — сведчыць пра моц і раскошу, што тут

калісьці панавалі. Вуглавыя вежы, магутная брама-тунэль, палацавы корпус з убудаванай капліцай, што стаяў насупраць брамы, жылыя карпусы размяшчаліся па перыметрах сцен і прылягалі да іх, глыбозныя скляпы, у якіх захоўваліся запасы зброі і правіянту на выпадак асады, земляныя валы і бастыёны з сістэмай абвадненпя... Большасць з усяго гэтага сёння можна хіба толькі што ўявіць. Але аснова, і добрая аснова, для такога ўяўлення ёсць. Тое-сёа ад замка ўсё ж збераглося. Краязнаўцы, шанавальнікі даўніны, роднай гісторыі мараць пра той час, калі сюды прыйдуць умелыя і зацікаўленыя рэстаўратары...

А мы ідзем у цэнтр Гальшан, да выдатнага помніка беларускага барока — францысканскага касцёла. Касцёл пабудаваны ў 1618 г., перабудоўваўся ў сярэдзіне XVIII ст. Знешне будынак вельмі просты, нават здзіўляе адсутнасцю прывычных для культавых збудаванняў вежаў. Аднак інтэр'ер яго ўражвае і перш за ўсё надзвычайнай суладнасцю жывапісу і архітэктуры. На плоскай сцяне алтара намалявана пано — перспектыўны малюнак у стылі барока. Ствараецца поўная ілюзія архітэктурнага прадаўжэння інтэр'ера, якое нагадвае багаты старажытны храм. Справа ад алтара пахаваны князі Сапегі (скульптурнае надмагілле П. Сапегі і яго трох жонак знаходзіцца зараз у Музеі старажытнай беларускай культуры Інстытута мастацтва, этнаграфіі і фальклору АН БССР).

Да касцёла з паўднёвага боку прымыкае будынак колішняга кляштара францысканцаў (адсюль і назва касцёла). Кляштар, як і касцёл,— сведка вострай рэлігійнай барацьбы ў сярэдневяковай Беларусі паміж каталіцкім касцёлам і прыхільнікамі Рэфармацыі. Сапегі, каб пазбавіцца ад рэфармацкай ерасі, запрасілі ў Гальшаны манахаў-францысканцаў.

Агледзеўшы замак і касцёл, пахадзіце па вуліцах Гальшан проста так, зайдзіце ў мясцовыя крамы, пагутарце з людзьмі. Пастойце перад помнікам-абеліскам гальшанцам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Паяднайце гісторыю і сучаснасць, учарашняе і сённяшняе. І пастарайцеся ўявіць будучае гэтага старажытнага беларускага мястэчка.



## 6. У госці да рыцара рэвалюцыі

Для многіх своеасаблівым адкрыццём з'яўляецца тое, што рыцар рэвалюцыі, «жалезны Фелікс», як называлі Ф. Э. Дзяржынскага, паходзіць з Беларусі, нарадзіўся ў самым цэнтры яе. Ад «Іслачы» — каля сарака кіламетраў...

Да хутара Дзяржынава — а менавіта гэта асноўны пункт нашага цяперашняга падарожжа — едзем старым Івянецкім трактам, амаль увесь час сасновым лесам, уздоўж Іслачы. Па дарозе робім некалькі кароткіх прыпынкаў — знаёмімся з тымі ці іншымі цікавымі мясцінамі.

Мінаем Міжрэчча з яго славутым сырзаводам, Кіявец з драўлянай паўразбуранай царквою, пабудаванай у 1919 г. Першы прыпынак — перад Падневічамі, каля вясковых могілак. Тут, у засені соснаў, каля невялікай каменнай каплічкі (пабудавана ў 1852 г.) спіць вечным сном В. Дунін-Марцінкевіч. На магіле (у якой пахаваны яшчэ жонка і дачка пісьменніка) помнік — бронзавы бюст пачынальніка новай беларускай літаратуры. Аглядаем капліцу, дзе адпявалі пісьменніка (і дзе, мяркуецца, будзе адкрыта з часам прысвечаная яму экспазіцыя), ускладаем кветкі на магілу...

У Падневічах развітваемся з Іслаччу, перасякаем яе па бетонным мосце і кіруемся далей.

Вось і Івянец.

Першы прыпынак робім пры ўездзе ў гарадскі пасёлак, каля мясцовых могілак. Увагу прыцягвае спічасты з чырвонай цэглы Аляксееўскі касцёл і ўваходная брама. Усё ў стылі неаготыка На саміх могілках няцяжка адшукаць магілу брата Ф. Э. Дзяржынскага — Казіміра Эдмундавіча і яго жонкі Люцыі Вільгельмаўны. За сувязь з партызанамі Баранавіцкага злучэння фашысты іх арыштавалі і 24 ліпеня 1943 г. расстралялі. У 1984 г. на доме ў Івянцы, дзе яны жылі, устаноўлена мемарыяльная дошка.

На гэтых могілках пахаваны і народны мастак А. Ф. Пупко (1893-1984). Ён вядомы як майстар разьбы па дрэве, што прадоўжыў і развіў лепшыя традыцыі беларускай народнай драўлянай скульптуры. Стварыў шэраг партрэтаў выдатных дзеячаў беларускай літаратуры — Ф. Скарыны, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Цёткі і інш., аўтар работ на фальклорныя казачныя сюжэты («Несцерка», «Збянтэжаны Саўка», «Летапісец», «Гусляр»), сюжэты з сялянскага жыцця («Араты», «Маці», «Сейбіт»), Найбольш любіў выразаць партрэты В. Дуніна-Марцінкевіча і М. В. Фрунзе. Што да В. Дуніна-Марцінкевіча, то зразумела: зямляк. А М. Ф. Фрунзе? Аказваецца, у 1916 г. ў хаце А. Пупко пад псеўданімам Міхайлаў пэўны час жыў М. В. Фрунзе — законспіраваны бальшавік, член

Усерасійскага земскага саюза на Заходнім фронце. Пра гэта сведчыць і мемарыяльная дошка на хаце мастака (вуліца Камсамольская, 87).

Хата А. Ф. Пупко — своеасаблівы музей народнага мастацтва, які не мінае, бадай, ніхто, ніводная турысцкая група. Апалінарый Фларыянавіч не толькі выразаў з дрэва, а яшчэ і маляваў, ляпіў. Інтэр'ер хаты (сцены, столь, дзверы, печкі) упрыгожаны размалёўкамі, лепкай. Менавіта гэтым хата прыцягнула калісьці ўвагу М. В. Фрунзе, і ён наняў тут кватэру. Усім гэтым прыцягвае яна ўсеагульную ўвагу і зараз, даўно ўжо стаўшы неафіцыйным музеем.

Найбольшая славутасць Івянца (ды і ўсёй Валожыншчыны) — кляштар францысканцаў, пабудаваны ў 1702-1705 гг. з цэглы пад кіраўніцтвам мясцовага майстра А. Чаховіча. Гэта — яскравы помнік беларускага барока. Уключае ён касцёл, жылы корпус і фрагменты сцяны з вежай і брамай. Захаваўся кляштар няблага, вонкава выглядае велічна, манументальна. На жаль, інтэр'ер касцёла цалкам пераабсталяваны, прыстасаваны да патрэб аднаго з мінскіх прадпрыемстваў. Грамадскасць раёна і рэспублікі даўно выступае за тое, каб належным чынам адрэстаўрыраваць кляштар, прыстасаваць яго да духоўнага ўжытку. Спадзяемся, так яно і будзе.

Кляштар — пераканаўчае сведчанне старадаўнасці Івянца. Увогуле ж гарадскі пасёлак вядомы з XIV ст. і належаў спачатку самому Вітаўту. Пазней перайшоў ва ўладанне князёў Салагубаў. Значныя радовішчы высакаякаснай гліны прадвызначылі ўзнікненне тут яшчэ ў XVI ст. ганчарства. Традыцыі старых івянецкіх ганчароў развіваюцца і сёння — працуе фабрыка мастацкай керамікі.



Пры фабрыцы — цікавы музей тутэйшых ганчарных вырабаў, якія карыстаюцца шырокім попытам у рэспубліцы і за яе межамі.

У Івянцы многае нагадвае пра аднаго са стваральнікаў Савецкай дзяржавы Ф. Э. Дзяржынскага. Тут знаходзіцца яго музей, устаноўлены помнік (работа З. Азгура). Гэта і не дзіўна: за 12 км адсюль — Дзяржынава.

Па дарозе спыняемся яшчэ раз -— адразу за вёскай Камень, каля калгаснай фермы. Нельга ж праехаць міма агромністага каменя-валуна, прыцягнутага калісьці сюды ледавіком. Камень, відавочна, даў назву самой вёсцы, з'яўляўся ў час язычніцтва выразным межавым знакам, месцам розных рытуальных абрадаў. Аброслы не толькі мохам, але і легендамі, ён служыць цяпер месцам вясёлых забаў вясковай моладзі.

За Пятрылавічамі — паваротка на Дзяржынава. Гэта ўжо — Стаўбцоўскі раён. Дарога вядзе лесам. Вось лес расступаецца — і позірку адкрываецца паляна. Спыняемся. Ідзем па бетонных плітах, уздоўж якіх узвышаюцца валуны. Іх сорак дзевяць — роўна столькі гадоў пражыў палымяны рэвалюцыянер. Былых пабудоў няма, яны знішчаны пад час апошняй вайны. Месца іх вызначаюць рэшткі падмуркаў. А вось і падмурак хаты, у якой прайшло дзяцінства Фелікса Эдмундавіча, адкуль ён пайшоў у людзі, куды апошні раз заходзіў улетку 1917 года...

У мемарыяльным пакоі, размешчаным побач, у леснічоўцы, вам пакажуць макет маёнтка Дзяржынскіх, што туліўся непадалёку ад рэчкі Уса, на ўзгорку, парослым сасняком. Дадуць магчымасць пазнаёміцца з выказваннямі Ф. Э. Дзяржынскага пра тутэйшыя мясціны. У прыватнасці, вось з гэтымі: «...Калі я ўспамінамі вяртаюся да нашых гадоў у Дзяр-

жынаве, мяне ахоплівае замілавальнае пачуццё, я нанава адчуваю радасць маіх тых дзіцячых настрояў... У гэтыя хвіліны я хачу апынуцца ў нашых лясах і слухаць шум дрэў, песні жаб — усю музыку нашай прыроды. Магчыма, у жыцці мне і давала сілу гэта музыка лесу, музыка майго дзяцінства, якая і цяпер увесь час іграе ў маёй душы гімн жыццю...». Або з гэтым: «Я ж не раз думаю пра наша Дзяржынава як пра казку, што там адновяцца ўсе мае сілы і маладосць вернецца... У сне я часта бачу дом наш, і хвоі нашы, і горкі белага пяску, і канавы, і ўсё, усё да самых драбніц». Новае ў абліччы Ф. Э. Дзяржынскага нам адкрываецца, ці не праўда? Кажуць: каб лепш зразумець паэта, трэба наведаць яго родны край. Гэта ж, як бачым, тычыцца і рэвалюцыйнага дзеяча...

Мы расказалі толькі пра некалькі турысцкіх маршрутаў, якія дапамогуць глыбей пазнаёміцца з цікавымі мясцінамі, што знаходзяцца бліжэй ці далей ад «Іслачы». Дырэкцыя Дома творчасці арганізуе і іншыя экскурсіі: на радзіму Я. Купалы — у вёску Вязынка (праз Новае Поле, былое ўладанне князёў Друцка-Любецкіх, і старажытны беларускі горад Заслаўе), у сталіцу БССР горад Мінск, у сталіцу суседняй Літвы горад Вільнюс (да якога ад «Іслачы» ўсяго 140 км)... Магчымы і іншыя маршруты.

Жадаем вам плёну ў творчай працы, добрага адпачынку і — цікавых экскурсій!

# ГДЕ СТРУИТСЯ ИСЛОЧЬ...



## 1. Дорога

Всякое путешествие начинается с дороги. Наше не исключение. И начнем его со стольного Минска, точнее — с его западной части, откуда вырывается на вольное пространство прямая, как след реактивного самолета, бетонная автострада — Раковское шоссе.

Куда он ведет этот современный тракт, и чем он такой известный, чтобы на нем заострять наше внимание? Ну, конечно, в край, где струится Ислочь, к месту нашей работы и отдыха — Дому творчества писателей «Ислочь», расположенного в 40 км от центра белорусской столицы. А еще — через Раков, Воложин, Аиду, Мосты — в Гродно, один из самых древних и своеобразных белорусских городов, крупный областной центр на западе БССР. Кстати, она, дорога — самый короткий путь из Минска (а также и из Москвы) к западной границе СССР (для сравнения: из Минска до Бреста 346 км, из Минска до Гродно 282 км).

Раковское шоссе с полным правом можно назвать дорогой дружбы. Именно с него начинается путь в Прибалтику. Дорожный указатель на окраине Минска свидетельствует: до Вильнюса 172 км, до Риги 467 км, до Таллинна 775 км. Перед Воложином, шоссе раздваивается: прямо — на Гродно, направо в Прибалтику. Выбирай, пожалуйста, путешественник, что тебе нужно…

В последнее время мы справедливо обратили внимание на мемориализацию дорог. Первой из белорусских транспортных артерий удостоилась мемориального знака дорога Минск — Молодечно — Вильнюс: рядом с шоссе у деревни Мясота возвышаются три валуна, на которых высечены имена известных людей, в разное время проезжавших или проходивших по ней. Думается, дождется своего мемориального знака и Раковское шоссе — древнейший путь, что крепко соединяет Восток и Запад. Когда-то бойкая «столбовая дорога», укатанная гравийка, ухоженная крестьянами во время шарварок, потом мощеная булыжником дорога, извилистая асфальтовая полоса, наконец — современная автострада, она за несколько столетий неузнаваемо изменила свой облик, но не потеряла основной функции: быть связующей как для соотечественников, так и для народов-соседей. Это по ней неоднократно шел пешком и ехал на деревенской телеге в свой фольварк Лютинка основоположник новой белорусской литературы, первый ее классик Винцент Дунин-Марцинкевич. Это она в свое время вела в околицы Ракова русского писателя-декабриста Александра Бестужева-Марлинского. Это она из когда-то глухого хутора Дзержиново вывела в широкий свет железного рыцаря Октябрьской революции Феликса Эд-

мундовича Дзержинского. Ею любовалась знаменитая польская писательница Элиза Ожешко, приезжавшая из Гродно в Раков к известному в свое время литературоведу и публицисту Марьяну Здзеховскому. Сымон Будный, Станислав Монюшко, Констанция Буйло, Якуб Колас, Илья Эренбург, Петр Миронович Машеров, десятки других известных культурных и общественных деятелей разных народов проходили и проезжали этим историческим путем, который видел на своем веку многое. В том числе — и не очень радостное...

Не только сдружала дорога. К сожалению, она, самый короткий путь из Западной Европы в Восточную, была участницей самых кровопролитных войн XIX-XX вв. По ней часть войск Наполеона двигалась на Москву, а потом с позором откатывалась назад, во Францию. Во время первой мировой войны Раковское шоссе стало ареной жестоких боев между немецкими и русскими войсками. В первые годы после Октября она была свидетелем советско-польского вооруженного конфликта, завершившегося Рижским мирным договором 1921 г., а для нее, дороги,— государственной советско-польской границей, пересекшей ее перед самым Раковом. Советские войска, освободившие в незабываемом сентябре 1939 г. Западную Беларусь, двигались также и по ней. Самое страшное досталось ей во время Великой Отечественной войны: и тогда, когда фашистские армии рвались на восток, на Минск и Москву, и тогда, когда во время освободительной операции «Багратион» в так называемом минском «котле» очутились сотни тысяч немецких солдат, которые озверело — опять же по ней — вырывались на запад. До сих пор стоит перед глазами то послевоенное шоссе: все в выбоинах, в воронках от бомб





и снарядов, запруженное разбитыми танками и машинами, с израненными деревьями у дороги, с ощеренными пастями уцелевших дзотов...

Давайте посмотрим на дорогу глазами любознательного путешественника-экскурсанта, который, начав свой путь из Минска, обозревает ее через окно автобуса или автомашины.

Вскоре за городским постом ГАИ, где поворот на деревню Тарасово, справа от автострады на холме мы увидим высокую стелу, к которой ведет бетонная лестница. Как свидетельствует надпись на ней, стела установлена «В память о боевых действиях подпольно-патриотической группы деревень Тарасово и Ратомка против немецко-фашистских захватчиков с июля 1941 г. по апрель 1942 г.». На мраморной доске начертаны имена пяти руководителей подпольной организации и пятнадцати рядовых ее участников (имена четырех не установлены), героически погибших в борьбе с оккупантами. О героизме советских людей во время Великой Отечественной войны свидетельствует еще один придорожный памятник. Небольшой обелиск, установленный справа от шоссе на 22-м км. Надпись на нем: «Здесь в июне 1941 года при обороне столицы Белоруссии г. Минска стояли насмерть воины 159 стрелкового полка 64 стрелковой дивизии». Холмистая местность, густая дубрава по обе стороны шоссе дали возможность нашим войскам создать здесь достаточно прочную линию обороны. О военных событиях до сих пор напоминает и уцелевший дзот слева от шоссе перед самой деревней Подсады (27 км).

Однако давайте перенесемся в наш сегодняшний день. За окнами машины проплывают лесистые холмы, колхозные поля, фермы, де-





*Интерьер рабочей комнаты.*

ревни с традиционными деревянными постройками и современными каменными зданиями: Дуброва, Хатежино, Новая Вёска, Байдаки, Новоселье... Пейзаж, типичный для Центральной Белоруссии... Леса — лиственные, смешанные, потом преобладают хвойные — все гуще, становятся почти сплошными, чтобы затем, где-то за Раковом, перейти на горизонте в Налибокскую пущу. Автострада, карабкаясь на пригорки и спускаясь в долины, еле заметно поднимается все выше и выше. Наконец на 26-м км деревня Горани (здесь, кстати, родился белорусский критик Сымон Куницкий, 1902-1940) — самое высокое место Раковского шоссе. И не только шоссе. Мы находимся на одном из наиболее высоких мест Минской возвышенности — самой высокой части Белорусской гряды. В солнечный день вдали слева можно увидеть лесистый холм — гору Дзержинскую. Она возвышается на 345 м над

уровнем моря. Вместе с горами Лысой (342 м) и Маяком (335 м), находящимися также недалеко отсюда, только справа от шоссе, она составляет «триумвират» самых высоких вершин Белоруссии. Конечно, горы эти условные — пологие или крутые холмы. Однако следует учесть, что Минская возвышенность, которую пересекает Раковское шоссе, является главным водоразделом между бассейном Черного и Балтийского морей, водоразделом европейского значения. Скажем, всего несколько километров отделяют истоки рек, берущих начало по обе стороны горы Дзержинской, но текущих в разных направлениях: Птичь (через Припять и Днепр) в Черное море, Ислочь (через Неман) в Балтийское. То же происходит и с реками, берущими начало от шоссе, возле горы Маяк: Свислочь (через Березину и Днепр) течет в Черное море, Уша (через Вилию и Неман) — в Балтийское. Когда-то в этих местах были бойкие волоки, пролегал один из путей из «варяг в греки». Интересно, что отдельные реки, берущие начало в этих местах, но текущие в разных направлениях (в сторону Балтийского или Черного морей), имеют одинаковые или очень схожие названия: Ислочь и — Свислочь, Березина (западная; в народе еще говорят Берёза) и — Березина (восточная, или Березина)... Древнему человеку, давшему эти названия, возможно, после недолгого сухопутного волока казалось, что он продолжает плыть по одной и той же реке...

От Гораней дорога круто побежала вниз. На горизонте — живописная долина Ислочи. Речка, выбиваясь около деревни Скирмонтово небольшим ключом и затем вбирая дань многочисленных ручьев и речушек, посте



пенно становится более глубокой и широкой и уже возле Дома творчества писателей радует глаз своей резвой хрустальной волной. Как свидетельствуют некоторые топонимисты, название Ислочи (как, впрочем, Вислы и Свислочи) происходит от слова «вислочь», что встречается в некоторых белорусских диалектах и обозначает «плавун, насыщенный водой песок, топь». Правда, один писатель, отдыхавший в «Ислочи», давал и другое объяснение названия реки: в языке наших прародичей антов слово «ислочь» это сонная лесная речка. Что ж, вполне возможно, что этим сохранившимся словом древние славяне-анты подали нам через столетия свой голос...

Долина Ислочи славится своими сосновыми лесами, растущими на сухих песчаных почвах. Речки здесь ключевые, холодные, болот нет. Это создает особенный микроклимат, своеобразный мир природы. Пресмыкающихся (гадюк, ужей и др.) здесь не встретишь, не надоедают летом и комары, разная мошкара. Воздух чистый, богатый кислородом, лечебными фитонцидами. Поэтому в Раковской курортной зоне нашли прописку санатории, профилактории...

Автострада дальше все время бежит долиной Ислочи, хотя саму речку нам не видно: она струится слева от шоссе, прячется за мощными соснами. Когда-то, до 17 сентября 1939 г., здесь была советская приграничная территория. А вот и бывшая граница в 33 км от Минска. Она восемнадцать лет пересекала шоссе, проходя вдоль небольшой речки Манюнька. Теперь здесь граница Минского и Воложинского районов, о чем свидетельствует дорожный указатель: «Воложинский район».

Дорога поворачивает вправо, обходя старинный поселок Раков. Проплывают вдали хаты, церковные и костельные купола, совхозные фермы, мачты электролиний… Сразу за Раковом — дорожная развилка. Поворачиваем влево, и через несколько минут — въездные ворота с желанной надписью: «Дом творчества писателей «Ислочь».



## 1. Замок на Ислочи

Рассказ об «Ислочи» хочется начать стихотворением Нила Гилевича, которое он прочитал на открытии Дома творчества 27 ноября 1986 г.:

Хмары дыхаюць зазімкам, віснучы,
А ў душы — святліста-светлы май:
— Добры дзень, Дом творчасці на Іслачы!
Жыхароў-гасцей к сабе прымай!

Як палац, ты ўзняўся тут, на ўзбочыне
Ад шашы, якой хадзіў Вінцэнт.
Ласка сэрца й моц рукі рабочае —
У цаглінцы кожнай гэтых сцен.
Хай жа ціша добрая тут цішыцца —
Для натхнення радасных дароў.
Хай тут кожнаму так слаўна пішацца,
Як, быць можа, ні ў адным з дамоў!

Хай шчыруюць тут, удумна мыслячы,
Творцы ўсіх народаў і зямель.
Дык у добры й доўгі шлях па Іслачы,
Бласлаўлёны музай карабель!

Поэту Н. Гилевичу здание Дома творчества показалось кораблем, плывущим по Ислочи.

Что ж, можно представить и такое. Однако романтическое воображение рисует и что-то иное...

Светлый замок Раковский — так иногда называют свой Дом творчества белорусские писатели, возбуждая в памяти название широкоизвестного у нас исторического романа Владимира Короткевича «Черный замок Ольшанский». Действительно, здание напоминает дворец замкового типа: двухэтажный четырехугольник с детинцем (внутренним двориком), смотровой башней, входными воротами. Как и положено, в «замке» все сделано по самому высокому счету, с учетом последних архитектурных и инженерных достижений. Жилые помещения со всеми удобствами — на разный вкус: одно- и двухкомнатные, большие и поменьше, на одном и двух уровнях (с оригинальными комнатами-мансардами). Три каминных зала: «Белавежская пушча», «Пралеска», «Васілёк» (названы по изразцам, использованным в отделке каминов). Просторные холлы с цветными телевизорами. Уютная библиотека с хорошим подбором литературы. Кинозал. Биллиардная. Кофейный бар. Медицинский пункт. И, разумеется, столовая, в которой кормят очень вкусно и разнообразно, в том числе — и белорусскими национальными блюдами, дарами местных полей, лесов и огородов. У кого большая семья или кто любит уединение — к услугам три отдельных двухэтажных коттеджа с небольшими каминными залами и верандами. Полная самостоятельность. Иллюзия личного домовладения.

Не только творить, но и отдыхать приезжают сюда писатели. И активно отдыхают, если дружат с физкультурой и спортом. В этом им помогает своя спортивно-оздоро





вительная зона, в которую входят спортивные площадки (волейбольная, теннисный корт, городки), прогулочные дорожки с видовыми площадками. Любители дальних прогулок выходят за территорию Дома творчества и протоптанной тропой над Ислочью направляются на запад, в сторону Михалова, к месту, где в Ислочь впадает не менее красивая речка Яршевка. Обратно, почувствовав приятную усталость, обычно возвращаются асфальтированной дорогой.

Зимой в Доме творчества можно взять напрокат лыжи, благо лыжня здесь отменная: ровные участки чередуются с пологими спусками и подъемами, прямой путь — с крутыми поворотами. Любителей бани особенно соблазняет домик, стоящий особняком. Здесь два парильных отделения (сауна и парильня с мокрым паром), душевая, бассейн, чайная и комната отдыха, обставленная оригинальной деревянной мебелью в народном стиле.

Хорошему настроению, вдохновению способствует и окружающая природа. А она здесь превосходная, таких красивых мест в Белоруссии не так уж и много. Дом творчества расположен в ягодном и грибном сосновом лесу на берегу родниковой Ислочи. Можно испытать свое рыбацкое счастье: на удочку счастливчиков иногда попадает даже форель. С крутого сыпучего берега открывается живописная долина реки, заливные луга, высокие холмы, поросшие черемухой и лещинником. Красоте мест соответствуют и здешние микротопонимические названия: Медведка, Соловьев кут, Рынковое болото... Красиво здесь в любую пору года: и весною, когда вспыхивают белым огнем многочисленные черемуховые костры, и летом, когда радует глаз многокрасочный, соткан-



ный из цветов ковер сенокосных угодий и ласкает слух стройный птичий щебет, и осенью, пропахшей туманом и густым грибным духом, и морозной зимой, с ее двумя главными цветами: снежной белизной и вечной хвойной зеленью...

Не удивительно, что здесь не только легко дышать, но и легко творить. Вот как об этом написал в своей «Оде Дому творчества «Ислочь» Станислав Шушкевич:

Прыйдзі сюды, на бераг выскачы,
Дзе працякае рэчка Іслач,
Ад прыгажосці, захаплення
Кране агнём цябе натхненне...
Тут тым паход паэт завершыць, —
Сардэчныя напіша вершы,
Празаік кожны тут, вядома,
Раманы створыць лепш, чым дома,
І драматург тут тэмп паскорыць,
Цудоўныя напіша творы.

Условия работы и отдыха, живописные окрестности не оставляют равнодушным никого, кто хоть раз побывает в «Ислочи». Вот только отдельные записи из «Книги отзывов ц предложений», что ведется в Доме творчества со дня его открытия.

«Будь благословенным, процветай и развивайся, писательское гнездо! Пусть в этом лесу, под тихий шум сосен, под зимним и летним небом создается новая изящная литература».

*И. Науменко. БССР.*

«Чудесные люди, добрые, настоящие сябры встретились мне в этом уголке Белоруссии. Хочется пожелать Дому успехов и добра. Пусть витают в нем бессмертные тени



классиков белорусской литературы, пусть завязываются узы братства, пусть обитателям этого Дома здесь думается и пишется о самом дорогом».

*Р. Лубкивский. Львов.*

«Живешь в «Ислочи» с душевным ублажением: Белоруссия, полная живого очарования, земля с ее ягодными, грибными лесами и строевыми гвардейскими пущами, пронзительно-яркими лучами, родниковыми речушками, песчаными косогорами и ее народ с характером любезным, добрым, теплым. Работай вволю!»

*В. Михайлов. Москва.*

«Армянские писатели и члены их семей благодарят за теплый прием и прекрасные условия. Здесь все хорошо: и условия, и люди, и природа... Спасибо, «Ислочь», мы тебя не забудем!»

*Т. Карапетян, В. Партизуни, Г. Джаникян. Армения.*

«Мы, переводчики белорусской литературы, чувствовали здесь как дома. Красивый лес, живописные окрестности наполняли нас оптимизмом и желанием к творческой работе».

*М. Яцкевич. Польша; В. Жидлицкий. Чехословакия; М. Джеркович. Югославия; П. Кынева. Болгария.*

«Дом творчества писателей «Ислочь» — самый лучший дом творчества в Советском Союзе. Здесь есть все условия для спокойного житья и творчества».

*Г. Эльсевар. Азербайджан.*



«Бесконечно благодарен за прекрасный месяц спокойной, солненчой, грибной и трудовой жизни. Покой, созданный здесь, помог и литературной работе — удалось сделать то, что в другой обстановке не удалось бы и за три срока».

С. *Ласкин. Ленинград.*

«Здесь можно уставать и можно отдыхать. Здесь можно взлетать душою к звездам и окунуться в холодное течение Ислочи — речки, по берегам которой ходил в раздумье наш учитель, наш основоположник В. Дунин-Марцинкевич. Может, Он только в снах видел, что рядом с Его родными местами вырастет когда-то Дом творчества белорусских писателей, что будет их много, и что они будут не только писать по-белорусски, но и свободно печатать свои книги. Что они будут продолжать ту работу, которую Он здесь так трудно начинал. Сердечное спасибо Ему за это! Сердечное спасибо людям этого чудесного уголка!»

*В. Домашевич. БССР.*

Дом творчества «Ислочь» построен в местах, связанных с жизнью и творчеством первого классика новой белорусской литературы В. Дунина-Марцинкевича (1808-1884). Благодарные потомки, белорусские писатели, присвоили Дому творчества «Ислочь» имя В. Дунина-Марцинкевича. И это — справедливый акт. Если бы в мрачные времена царизма не было у белорусов таких самоотверженных защитников родной культуры, языка, как В. Дунин-Марцинкевич, то, видимо, не существовала бы сегодня ни республиканская писательская организация с ее более

чем четырьмястами членами, ни, тем более, самого Дома творчества…

Доктор филологических наук писатель А. Мальдис предлагает (на страницах той же «ислочской» «Книги отзывов и предложений») в смотровой башне, которая пока что не выполняет никакой функциональной роли, создать «башню памяти» Белорусского Дударя. На стенах, в витринах, на площадках башни, кроме материалов о В. Дунине-Марцинкевиче, предлагается разместить снимки и книги с автографами тех писателей, которые здесь работали и отдыхали, рукописи и публикации отдельных произведений, написанных в Доме творчества, и т. д. Так, по мнению А. Мальдиса, должны создаваться добрые традиции «Ислочи».

А здешние традиции уже возникают, несмотря на то, что Дом творчества относительно молодой. Это и «Ислочские чтения» — творческие знакомства с писателями почти каждого заезда, проходящие в кинозале или в одном из каминных залов. Это и ежегодные совещания молодых белорусских литераторов, что проходят здесь, на берегу Ислочи. Это и произведения которые в рубрике «Написано в «Ислочи» регулярно появляются на страницах республиканской газеты «Літаратура і мастацтва». Дом творчества «Ислочь» — прекрасное место для проведения различных литературных встреч, семинаров, симпозиумов. Максимум удобств для творческой работы и отдыха, домашний уют, тишина создают здесь своеобразный духовный микроклимат, в котором светло думается и хорошо пишется. Поэтому периодически приезжают сюда на свои совещания литераторы не только из Белоруссии, но со всего Союза и даже из-за границы. Так, в «Ислочи» проходил всесоюзный семинар публицистов, здесь собирались молодые российские прозаики, зарубежные переводчики белорусской литературы и т. д. Ежедневно, кроме белорусского и русского, здесь звучат языки многих народов СССР, сливаясь в дружный хор многонационального братства

Удач и успехов вам в работе, дорогие друзья!

Хорошего отдыха здесь, где струится хрустальная Ислочь!



## 2. Околицы

Осмотр околиц — это одновременно и активный, богатый эмоциями отдых, своеобразная «подзарядка» для плодотворной творческой работы. Жители «Ислочи» обычно много ходят пешком и, как правило, во второй половине дня. Дышат чистым воздухом, собирают ягоды и грибы (летом и осенью), осматривают окрестные места. Сочетают, так сказать, приятное с полезным.

Можно назвать несколько интересных маршрутов, рассчитанных на пешие прогулки в одиночку или небольшими группами. Несомненно, удовлетворение принесет поход «в природу» — вдоль Ислочи, вниз по ее течению. Извилистая лесная тропа, проложенная по правому, необыкновенно живописному берегу реки, приведет к небольшой деревеньке Михалово, возле которой в Ислочь впадает Яршевка. Здесь можно выбрать один из двух путей: повернуть направо и пойти поймой вверх по течению Яршевки либо перейти эту речку по мосту и отправиться



вслед за, течением Ислочи. Оба маршрута интересные, ласкает глаз своей красотой пейзаж. На лугах и в лесу много лекарственных трав. И в Ислочи, и в Яршевке можно отыскать достаточно глубокие заводи, пригодные и для купанья, и для рыбалки. Однако маршрут вдоль Ислочи более привлекателен, там через какой-то километр за Михаловом вас ждут небольшие, но довольно глубокие рыбные старицы, оставшиеся на месте прежнего русла. Можно и искупаться, и поудить рыбу. А когда затем пересечем неширокий бор, то выйдем к Междуречью — красивой лесной деревне, где находится Раковский сырзавод. Его продукция — сыр «Пикантный», поступающий на прилавки минских и московских магазинов,— пользуется постоянным спросом. Шоссе, проходящее мимо сырзавода, быстро приведет обратно в «Ислочь».

Если же, не доходя до Михалова, повернуть резко влево и по старому деревянному мосту перейти на левый берег Ислочи, то лесной дорогой можно выйти на Перёжерское шоссе, которое выведет еще на два интересных маршрута.

Давайте сначала с шоссе свернем направо. Через некоторое время увидим при дороге Белый столб — так здешние жители называют памятник с гонтовой кровелькой, поставленный на месте одной из битв русской армии с войсками Наполеона. Здесь было уничтожено немало отступавших вражеских солдат, убит французский генерал. Около Белого столба — два вросших в землю камня. Согласно легенде, местный пан живьем закопал здесь кормилицу с ее ребенком за то, что она ненароком приспала его младенца.

Пройдем еще полкилометра — и нашему

взору откроется вся в садах, в зелени деревня Перёжери, где старые люди еще и сегодня помнят высокого, в очках человека, интеллигентного «американца» — Константина Стаховского (1877-1947). Здесь он родился, в соседнем Ракове окончил церковноприходскую школу и ремесленное училище, отсюда вышел в люди — поехал в Вильно, работал на Либаво-Роменской железной дороге машинистом. Прозвище «американец» пристало к нему потому, что большую часть своей жизни он прожил в Соединенных Штатах Америки.

А случилось это вот как.

Работая в Вильно, К. Стаховский наладил тесную связь с местными социал-демократами, принимал активное участие в событиях 1905 г. Однажды подпольщики устроили на железной дороге диверсию, чтобы не пропустить в Вильно царские войска, посланные для разгона демонстрации. Жандармы арестовали некоторых участников этой диверсии, в том числе К. Стаховского. Однако ему удалось бежать из-под стражи. С чужим паспортом он вскоре эмигрировал в Америку.

В США, зарабатывая на кусок хлеба, К. Стаховский работал чернорабочим, сторожем, каменщиком, перепробовал десятки профессий, долгое время оставался безработным. Однажды ему удалось найти работу на строительстве тоннеля. Условия труда были невыносимыми: в воде, в страшной духоте, почти без воздуха... Работали только по полчаса, больше не выдерживали. Затем выходили наверх, менялись. Многие рабочие отравились газами, несколько человек погибло под обвалами. Молодой же белорус преодолел все невзгоды. Это и позволило К. Стаховскому собрать определенную сумму денег, встать,





как говорят, на ноги. Тогда же и возникло у него желание описать хваленый американский «рай». Жизненных наблюдений хватало, творческое воображение не дремало, да и определенные литературные способности проснулись.

Так родились две книги, изданные позже в Вильно — «Рассказы американского холостяка» (1937) и «Моль жирная и моль тощая» (1939). На многочисленных жизненных примерах, чрезвычайно ярких и правдивых, К. Стаховский показал изнутри классовое расслоение капиталистического общества, его моральное разложение, бедственное положение в нем человека труда. Безусловно, он не мог подняться до таких значительных социальных обобщений, не говоря уже про уровень писательского мастерства, как, скажем, Максим Горький в своих знаменитых очерках «В Америке» (1906). В то же время «Рассказы» К. Стаховского в определенном смысле дополняют и по-своему иллюстрируют наблюдения и рассуждения великого пролетарского писателя о губительной силе «желтого дьявола» — денег, о перерождении буржуазной культуры и т. д.

Кстати, наблюдения М. Горького и К. Стаховского относятся к одному и тому же периоду — первому десятилетию XX в. И именно этот выигрышный момент позволяет без особых натяжек сопоставить произведения совершенно разных литераторов — писателя-классика и писателя-самоучки.

К. Стаховский в 1928 и 1935 гг. приезжал из Соединенных Штатов Америки на свою родину, в Пережери. Тогда же он в качестве туриста посетил и Советский Союз, побывал в Минске, Москве, Ленинграде, на строительстве Беломорско-Балтийского канала.



В свой третий приезд домой (1938-1939) он познакомился в Вильно с Максимом Танком. Поэт в своем дневнике, позже опубликованном под названием «Листки календаря»,
1 ноября 1938 г. записал: «В типографии В. Трутько, обосновавшейся на улице Мицкевича, печатник Богаткевич познакомил меня с очень интересным и оригинальным автором «Рассказов американского холостяка» Стаховским. Еще перед империалистической войной Стаховский выехал в Соединенные Штаты Америки, где как-то удалось ему встать на ноги и разбогатеть. А приобретя деньги, пожелал рассказать людям о том, что видел, пережил, передумал. Рассказы свои он диктовал стенографисту, потом давал их еще какому-то стилисту править. В Вильно он приехал, чтобы навестить своих родных и земляков и издать свою вторую книгу, которую назвал «Моль жирная и моль тощая»...

Заработанные деньги Стаховский благородно израсходовал на издание двух книг. Книг, ставших скромным памятником на его одинокой безвестной могиле...

Если же, выйдя на Пережерское шоссе, пойти в противоположную сторону, влево, а потом на первой развилке дорог свернуть вправо, к деревне Выгоничи, то вскоре, перед самой деревней, что приютилась в долине небольшой речушки, мы увидим высокий памятник с высеченным на нем портретом. Надпись на памятнике свидетельствует, что в Выгоничах в 1821-1822 гг. жил известный русский писатель-декабрист А. Бестужев-Марлинский (1797—1837). Это он, один из трех братьев Бестужевых — активных участников декабристского движения, вывел 14 декабря 1825 г. на Сенатскую площадь

